НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 3 (744) 25 студзеня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы».



## Беларускія гульні заваявалі Расію

«Схватка», «Кропка», «Мокрыя войны» — гарадскія гульні сталі экспартным бізнэсам. Старонка 15.

# «Іх паўсюль могуць чакаць»

Французскі адвакат спрабаваў **арыштаваць міністра** Куляшова ў часе перамоваў у Інтэрполе. **Старонка 3.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Тэндэнцыі

## Лукашэнка ціха з'ехаў у Сочы на адпачынак і перамовы

Традыцыйна кіраўнік краіны адпачывае **некалькі разоў на год**.

У Краснай Паляне, што пад Сочы, Лукашэнка меў сустрэчу з Дзмітрыем Мядзведзевым. Гэтак і стала вядома, што кіраўнік краіны выехаў. Напярэдадні пра візіт нічога не паведамлялася.

Аднак пры канцы навіны сціпла адзначаецца: «Аляксандр Лукашэнка спалучыць сваё знаходжанне ў Сочы з кароткатэрміновым адпачынкам».

Як правіла, Лукашэнка сыходзіць у адпачынак некалькі разоў на год, у зімовы і летні перыяд. Каб можна было і на лыжах пакатацца, і ў моры пакупацца.

У жніўні ён ужо адпачываў разам з Колем у сочанскім санаторыі «Белая Русь». Летась Лукашэнка таксама заязджаў у Сочы ў лютым, дзе ўпарта чакаў сустрэчы з расійскім кіраўніцтвам.

Цяпер магчымасці для адпачынку ў Лукашэнкі абмежаваныя постсавецкай прасторай, арабскімі краінамі ды Венесуэлай. У час жа кароткага пацяплення адносінаў з Захадам ён паспеў пакатацца на лыжах у Сербіі, Швейцарыі і Аўстрыі.

**Зміцер Панкавец**

Грамадства

### На працы Абельскай амаль няма спасылак

База Scopus цытуе яе толькі раз. **Старонка 8.**



Поспех

### Беларуская «Мара» Сяргея Левіна

Айчынны пральны парашок пасунуў заходнія брэнды. **Старонка 5.**




Турызм

### Дзе адпачывалі беларускія футбалісты?

Мальдывы, Прага і санаторый «Азёрны». **Старонка 9.**



Крымінал

### Аматар абсэнту

Хлопец трапіўся на продажы «зялёнай вядзьмаркі». **Старонка 10.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# У абанентаў МТС аўтаматычна спісалі грошы

А вы праверылі свой рахунак?

У кампаніі спасылаюцца на тэхнічны збой у працы абсталявання. 21–22 студзеня адбывалася абы-што: у многіх абанентаў некарэктна адлюстроўваўся баланс, былі заблакаваныя званкі. Больш за тое, у людзей прапалі грошы!

Праблемы ўзніклі ў тых, хто карыстаўся мабільным інтэрнэтам. Нягледзячы на актывізаваныя пакеты трафіку, грошы спісваліся па іншых тарыфах. Сітуацыя выйшла з-пад кантролю.

«У мяне пачалі здымацца грошы за карыстанне інтэрнэтам, каля 91 тысячы рублёў. З-за гэтага цяпер запазычанасць 48 тысяч і мяне заблакавалі», — напісаў чытач сайта nn.by. Дзясяткі другіх пацвердзілі: у нас тая ж бяда.

«У сувязі з ажыццяўленнем планавых работ па пашырэнні функцыянала білінгу МТС для некаторых абанентаў апрацоўка заявак на даданне/выдаленне паслуг, здыманне блакіровак, залічэнне плацяжоў праводзіцца з затрымкай. Мы працуем з кожным індывідуальным абаненцкім выпадкам, усе пытанні абанентаў будуць вырашаныя ў найбліжэйшы час», — паведаміла прэс-служба МТС. Калі праблема будзе вырашана, не паведамляецца.

Цікава, што інцыдэнт адбыўся напярэдадні запланаванага аўкцыёну па прыватызацыі кампаніі.

Ягор Марціновіч

Фотафакт



Вадохрышча — зіме палова. «Трашчы не трашчы, а ўжо па Вадохрышчы», — кажа на мароз прымаўка.

PHOTO.BYMEDIA.NET

## 3 лютага пенсіі вырастуць на 24%

Пераразлік пенсій у 2012-м будзе штоквартальна.

Працоўныя пенсіі ў лютым гэтага года вырастуць у сярэднім на 24%. Гэтае павышэнне закране 2,4 млн чалавек. Пераразлік з 1 лютага будзе зроблены зыходзячы з сярэдняга заробку работнікаў у краіне за IV квартал 2011 года. Сярэдні памер працоўнай пенсіі па ўзросту павялічыцца прыкладна да 1 млн 250 тыс. Увогуле ў 2012 годзе пераразлікі працоўных пенсій у сувязі з ростам сярэдняй зарплаты работнікаў у краіне будуць ажыццяўляцца штоквартальна.

Паводле БелТА

## Белстат: сярэдні заробак у Мінску дасягнуў 3,8 млн рублёў

Нацыянальны статыстычны камітэт (Белстат) працягвае цешыць новымі лічбамі. Так, у панядзелак паведамлялася, што ў снежні заробак у Беларусі склаў 2 млн 877 тыс. 658 рублёў (345 даляраў). У аўторак Белстат удакладніў лічбы па рэгіёнах. Так, згодна са звесткамі Белстата, у Мінску сярэдні налічаны заробак (г.зн. «брудны») у снежні склаў 3 млн 829 тыс. 926 рублёў (458,6 даляра), у Мінскай вобласці — 2 873 052 рублі, у Гомельскай — 2 713 231 рубель, у Магілёўскай — 2 627 000. У аўтсайдарах ходзіць Заходняя Беларусь. У Гродзенскай вобласці сярэдні налічаны заробак у снежні склаў 2 553 489 рублёў, у Брэсцкай — 2 407 920 рублёў.

Апытанне

А колькі зарабляеце вы?

Людзі абменьваюцца думкамі і вопытам на nn.by

## Усу не дазволілі правесці ўстаноўчы сход

Прычыну прыдумалі — парушэнне артыкула №5 закона «Аб масавых мерапрыемствах».

Мінгарвыканкам адмовіў у правядзенні ўстаноўчага сходу ініцыятыўнай групе па змене выбарчага заканадаўства, якую ўзначальвае экс-кандыдат у прэзідэнты і, у выніку, палітвязень Дзмітрый Ус. Прычына адмовы — парушэнне артыкула № 5 закона «Аб масавых мерапрыемствах». «Якім чынам мы парушылі гэты артыкул, прадстаўнікі гарадскіх уладаў адмовіліся патлумачыць», — кажа Ус.

Зараз Ус і яго ініцыятыўная група плануюць сабраць тысячу подпісаў і накіраваць іх у Адміністрацыю прэзідэнта з просьбай дазволіць правядзенне мерапрыемства.

Радыё «Рацыя»

## Рублёвыя дэпазіты губляюць прыбытковасць

Стаўкі пачынаюць змяншацца.

«Да канца 2012 года стаўка рэфінансавання будзе зніжана да ўзроўню 22—23%», — паабяцаў намеснік старшыні Нацбанка Мікалай Лузгін. Дзейная стаўка складае ажно 45% — гэта сусветны рэкорд. Так ці інакш, але банкі ўжо пачалі змяншаць прыбытковасць дэпазітаў. У некаторых выпадках зніжэнне дасягала 14% за месяц.

З існуючых на рынку прапаноў найбольшая фіксаваная стаўка складае 60% гадавых («Белросбанк», на 6 месяцаў). Сярод плаваючых можна знайсці і 68% гадавых ад «ДэльтаБанка», аднак гэтая лічба з цягам часу можа зменшыцца.

Буйныя дзяржаўныя банкі, напрыклад, «Беларусбанк», прымаюць грошы пад 57—58% гадавых. Іх стаўка наўпрост прывязана да стаўкі рэфінансавання.

Калі і несці ў банкі рублі на ашчаджэнне, то лепей рабіць гэта зараз.

ЯМ

### Сціслa

**Прысуд Бяляцкаму пакінулі без зменаў**

Касацыйная скарга разглядалася 24 студзеня ў Мінскім гарадскім судзе. Напярэдадні грамадскасць сабрала для жонкі палітвязня больш за 760 мільёнаў рублёў на кампенсацыю «шкоды дзяржаве». Аднак і гэта не паўплывала на рашэнне суда.

**Новае права падатковай**

Ад 1 студзеня падатковая атрымала права на праверку здзелак, у якіх цана на 20% адрозніваецца ад «рынкавай». Норма будзе распаўсюджвацца на здзелкі з нерухомасцю і замежнагандлёвыя аперацыі. У Падатковы кодэкс унесены артыкул 30(1), што істотна карэктуе трактоўку такіх тэрмінаў, як «рынкавая цана» і «эксклюзіўны дылер/трэйдар/рэсэлер/пастаўшчык». Што такое правільная рынкавая цана і крытэры ідэнтычнасці тавараў, закон дазваляе вызначаць менавіта падатковым органам. Яшчэ адна навіна ў беларускай эканоміцы — кантроль над здзелкамі з адным і тым жа замежным контрагентам, якія перавышаюць у сукупнасці суму 20 млрд рублёў на працягу аднаго падатковага перыяду.

**Маці і жонка пабачылі Саннікава**

Ім дазволілі кароткае спатканне з сынам і мужам. Гаварылі яны праз шкло па тэлефоне. Ірына Халіп расказала, што Андрэй вельмі схуднеў.

**Небагатае жыццё маладых дактароў**

Толькі 3,5% маладых лекараў задаволеныя сваім заробкам. Такія звесткі сацыялагічнага даследавання, праведзенага афіцыйнымі прафсаюзамі. У сярэднім малады доктар зарабляе не больш за 2,5 мільёна рублёў. Ці ж на такія грошы можна карміць сям'ю і самаўдасканальвацца?

**Вайна са снегам**

Дарожнікі Мінска вывелі на вываз снегу аж 200 самазвалаў. ДАІ звяртаецца з пераканаўчай просьбай: не паркаваць транспарт на вуліцах, дзе ідзе прыборка снегу. Такія машыны будуць нават эвакуяваць на штрафстаянкі.

СГ

### Самае чытанае на nn.by за 18—24 студзеня

1. Студэнтку, што здымалася аголенай у мінскім метро, аштрафавалі на 70 тыс.
2. Што думаюць рабочыя пра абарону сваіх правоў? Апытанне на прахадной МТЗ
3. Інтымны канфуз жонкі прэзідэнта Мядзведзева — фота
4. У абанентаў МТС спісалі грошы
5. Французскі адвакат патрабуе неадкладна арыштаваць Куляшова. «Шанцы высокія»
6. У Беларусі з'явілася кілбаса для мільянераў — фота
7. На працы доктара навук Абельскай амаль няма спасылак у навуковых працах
8. Лукашэнка заяўляе аб «магчымасці мадэрнізацыі палітычнай сістэмы»: «Кітай падкажа»
9. МУС: на фота пасля выбуху — сапёрна-піратэхнічны разлік
10. 200 мінчукоў пратэстуюць супраць будаўніцтва двух дамоў для спецназаўцаў

# «Іх паўсюль могуць чакаць»

Французскі адвакат спрабаваў **арыштаваць міністра** Куляшова ў часе перамоваў у Інтэрполе.

Міністр унутраных справаў Анатоль Куляшоў выехаў у французскі Ліён, дзе ў складзе беларускай дэлегацыі браў удзел у сустрэчы з прадстаўнікамі Інтэрпола. Увогуле, міністр на тэрыторыю Еўрасаюза неўязны. Такое рашэнне Радай ЕС было прынятае пасля прэзідэнцкіх выбараў, калі адбыўся разгон Плошчы, а многія кандыдаты і ўдзельнікі апынуліся ў турмах. Куляшоў тады з Лукашэнкам неафіцыйна спрачаліся, хто ж даваў загад на разгон. Абодва на гэтае пытанне катэгарычна адказвалі: «Загад аддаваў я». Вось і разбярыся, хто кажа праўду.

**Анекдот**

Французскія ўлады не ведалі, што Куляшова можна было затрымаць на 15 сутак за нецэнзурную лаянку і спраўленне натуральнай патрэбы ў грамадскім месцы.

Еўрасаюзаўскія санкцыі беларускія чыноўнікі абыходзяць ужо не ў першы раз. Некалі і былы кіраўнік МУС Уладзімір Навумаў і намеснік Куляшова Алег Пякарскі без перашкодаў наведвалі Вену па лініі АБСЕ. Былі і іншыя выпадкі, як наведванне Нью-Ёрка колішняй першай намесніцай кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Наталляй Пяткевіч. Праўда, апошняя прызнавалася, што ёй там давялося разам з нелегаламі сядзець у «абязьянніку».

Магчыма, што і візіт Куляшова надта не выдзяляўся б з гэтага шэрагу, каб не... спроба арышту высокапастаўленага чыноўніка. Адвакат Уільям Бурдон падаў пазоў у французскі суд аб арышце міністра.

Бурдон дзейнічаў ад імя арганізацыі Free Belarus Now — «Вызваліць Беларусь зараз», якую заснавалі ў Вялікабрытаніі сваякі палітвязняў і палітычныя эмігранты.

«Гэта вельмі тэрміновая справа, неабходна як мага хутчэй прыняць меры, каб правесці расследаванне і вызначыць ягоную адказнасць за ўчыненыя правапарушэнні», — гаварылася ў скарзе адваката, які таксама накіраваў ліст міністру юстыцыі Францыі.



Куляшоў на сустрэчах у Ліёне ўсміхаўся.

Варта адзначыць, што Бурдон з'яўляецца адным з найбольш вядомых адвакатаў Францыі. Ён вёў справы супраць Пінахэта, Кадафі, Мілошавіча, а таксама супраць ЗША на баку некаторых вязняў турмы Гуантанама.

«Шанцы, што спадара Куляшова арыштуюць, даволі высокія, і мы на гэта разлічваем», — аптымістычна адзначала памочніца адваката.

Але стаць вязнем ліёнскай турмы Куляшову ўсё ж было не наканавана. Справа ў тым, што паміж Францыяй і Інтэрполам існуе пагадненне, згодна з якім прадстаўнікі іншых дзяржаў, якія бяруць удзел у французскіх сустрэчах Інтэрпола, набываюць імунітэт ад судовага пераследу.

Хоць канкрэтнага выніку пакуль дасягнуць не ўдалося, ініцыятары звароту ў французскую юстыцыю, тым не менш, задаволеныя эфектам.

**Міхалевіч: Шкада, што не ўдалося**

Экс-кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч быў першым, хто заявіў пра катаванні ў лукашэнкаўскіх турмах.

«Позва аб затрыманні Куляшова выпісвалася ў тым ліку на падставе маіх паказанняў. На вялікі жаль, арыштаваць міністра не ўдалося. Спадзяюся, што для гэтага будуць яшчэ магчымасці».

«Куды б Куляшоў з кампаніяй цяпер ні паехалі, іх паўсюль могуць чакаць судовыя позвы», — сказала дачка экс-кандыдата ў прэзідэнты Ева Някляева. Ева жыве і працуе ў Хельсінкі. Як і сястра Андрэя Саннікава Ірына Багданава, Ева перажыла поўныя кашмару дні, калі лёс вывезенага з бальніцы Уладзіміра Някляева быў невядомы. Калі з'явіліся сведчанні пра катаванні ў турме КДБ, яны, сёстры, дочкі, удовы, злучыліся ў ініцыятыву «Вызваліць Беларусь зараз».

Такім чынам, цяпер асобам, якіх падазраюць у расправах з людзьмі, прыйдзецца захоўваць пільнасць пры кожным выездзе за мяжу.

**Зміцер Панкавец**

# Каляда і Халезін: Брытанскія адвакаты ўсё зрабілі ідэальна

Кіраўнікі «Свабоднага тэатра» Мікалай Халезін і Наталля Каляда былі сярод тых людзей, хто ініцыяваў **завядзенне справы**.

**«Наша Ніва»: Хто мае дачыненне да позвы аб затрыманні Анатоля Куляшова?**

**Наталля Каляда:** Справу ініцыявала Ірына Багданава, сястра Андрэя Саннікава. Гэта адбылося адразу пасля 19 снежня, калі не было ніякіх вестак аб арыштаваных. Я далучылася пазней, калі пераехалі ў Лондан. Таксама ў гэтай кампаніі ўдзельнічае Ірына Красоўская, удава зніклага ў Беларусі бізнэсоўца. Да справы былі прыцягнутыя брытанскія адвакаты Джэйсан Мак'ю і Мэцью Джуры.

**«НН»: Чаму ж французская юстыцыя не падтрымала ваш пазоў?**

**НК:** Брытанскія адвакаты ўсё зрабілі ідэальна. Увесь пакет дакументаў па злачынствах беларускіх уладаў быў падрыхтаваны. Цяпер ён у вольным доступе ва ўсіх краінах свету. Аднак Францыя, як і ўвесь Еўрасаюз, паказалі, што прынцыпы «свабоды, роўнасці, братэрства» для іх не заўсёды граюць вырашальную ролю. Палітыка і бізнэс-інтарэсы аказаліся важнейшымі.




«Свабодны тэатр» змог прыцягнуць увагу да Беларусі зорак кіно Джуда Лоу і Кевіна Спейсі.

**Мікалай Халезін:** Насамрэч мы былі досыць блізка да арышту. Я цудоўна разумею Францыю, якая пабаялася такога прэцэдэнту. Калі б гэта было не па лініі міжнароднай арганізацыі, то такі профі, як Бурдон, змог бы давесці справу да суда.

**«НН»: Вы кажаце, што чыноўнікаў могуць арыштаваць ва ўсіх краінах. У тым ліку ў Расіі?**

**НК:** Фармальна, так. У Расіі існуе права прыватнага крымінальнага пераследу. Гэта значыць, кожны чалавек можа звярнуцца ў суд з падобнай ініцыятывай. Але наўрад ці можна разлічваць на затрыманні ў Расіі.

**«НН»: Супраць каго яшчэ, апроч Куляшова, дзейнічае пагроза арышту?**

**НК:** На сённяшні дзень — гэта Лукашэнка, Куляшоў, Зайцаў. Справы супраць іх сабраныя па паказаннях Міхалевіча, Саннікава і іншых аб катаваннях. Разам з тым, тут не трэба, каб цябе катавалі ў турме. Дастатковы сам факт незаконнага затрымання.

**«НН»: Ці ёсць перспектыва пачатку суда ў адной з еўрапейскіх краін завочна?**

**НК:** Усе дакументы падрыхтаваныя, таму нічога нерэальнага тут няма.

**«НН»: Мікалай, у сваім блогу вы прапануеце адмяніць візавыя**

**На сёння — гэта Лукашэнка, Куляшоў, Зайцаў »**

**санкцыі супраць беларускіх чыноўнікаў. Чаму?**

**МХ:** Парадокс, але механізм з арыштамі чыноўнікаў мы можам ужыць толькі ў выпадку, калі гэтыя людзі змогуць выехаць у Еўрасаюз. Зрэшты, тут таксама пытанне прымянення. Магчыма, што будуць ездзіць усе чыноўнікі, апроч тых, якім будзе пагражаць арышт.

**Гутарыў ЗП**

# Абраз да 60-годдзя Захаранкі

Стварыў мастак **Алесь Пушкін**.

У мінскім Палацы мастацтваў распачаўся Другі фестываль беларускага духоўнага мастацтва. Падчас яго мастак Алесь Пушкін прэзентаваў інсталяцыю, прысвечаную зніклым людзям. Цэнтрам інсталяцыі стаў абраз «Аб'яўленне Маці Божай адшукання загінуўшых і зніклых».

Пасля афіцыйнай часткі некаторыя наведнікі выставы прымацавалі ля абраза партрэты палітыкаў і журналістаў, якія зніклі ці памерлі пры загадкавых абставінах за апошнія 17 гадоў — Юрыя Захаранкі, Алега Бябеніна, Змітра Завадскага, Анатоля Красоўскага, Генадзя Карпенкі.

Дырэкцыя музея адрэагавала адразу. На пытанне «Чыя гэта палітычная акцыя?» адзін з наведнікаў адказаў «Мая», пасля чаго дырэктар Палаца мастацтваў прымусіў яго зняць партрэты і груба выцягнуў з памяшкання, дзе месцілася выстава.

З інсталяцыі знялі і тэкст Алеся Пушкіна: «Упадак духоўнасці нашага насельніцтва апошнім часам набывае пагрозлівыя, катастрафічныя маштабы, — піша Пушкін пра інсталяцыю. — Надоечы прынеслі мне здэградаваныя, неаднаразова асуджаныя людзі, жыць сярод якіх, на сваёй малой радзіме, у мястэчку Бобр Крупскага раёна, я зрабіў свой выбар, — Абраз. Папрасіўшы суму грошай, эквівалентную пяці бутэлькам партвейну. І я ўбачыў у гэтай падзеі знак... Я прывёў Абраз гэты ў належны стан — і вось Ён, перад Вамі! Прысвячаецца 60-годдзю Юрыя Захаранкі».

Сам Алесь Пушкін, які падчас інцыдэнту разам з іншымі наведнікамі глядзеў батлейку ў іншым канцы залы, пракаментаваў здарэнне так: «Я аднавіў Абраз, куплены ў п'яніц, і павесіў яго на выставе. А тое, што адбылося — гэта зрабіў народ, а народ, як вядома, — творца сваёй эпохі».

**Юрась Ускоў**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



# На Магілёўскім домабудаўнічым камбінаце ўтварыўся страйкам

З грузчыкам Алегам Аксёнавым **не працягнулі кантракт**.




Алег Аксёнаў (на фота) — намеснік кіраўніка магілёўскага гарадскога аргкамітэта Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Шчыры вернік. А на домабудаўнічым камбінаце працуе грузчыкам. І вось — атрымаў пісьмовае папярэджанне, што заключаны з ім у лютым 2011 кантракт не працягнуць. У чым жа справа?

У кастрычніку 2011-га на камбінаце сем будаўнікоў стварылі забастовачны камітэт. Пры падтрымцы Свабоднага прафсаюза металістаў яны склалі спіс патрабаванняў да адміністрацыі. Найперш патрабавалі павышэння заробкаў, а таксама выплаты індэксацый за затрымкі заробкаў.

«У жніўні мы атрымлівалі ад 1,6 мільёна да 2 мільёнаў рублёў, а ў верасні заробкі скараціліся да мільёна», — расказвае Аксёнаў. Потым заробак «вырас» на 200—300 тысяч.

Па яго словах, страйкамаўцы атрымалі пісьмовы адказ ад адміністрацыі, у якім указваліся канкрэтныя тэрміны вырашэння праблем, агучаных рабочымі. Будаўнікі, кажа актывіст, дамовіліся з кіраўніцтвам, што не будуць агучваць інфармацыю пра стварэнне страйкама, калі тое выканае іх патрабаванні.

Аднак неўзабаве актывістаў пачалі выклікаць на персанальныя гутаркі ў «адпаведныя органы», сцвярджае Аксёнаў.

У папярэджанні аб непрацягненні контракта з Аксёнавым гаворыцца, што зроблена гэта ў сувязі з заканчэннем тэрміну дзеяння дамовы. «У службовым дакуменце ўдакладняецца, што мы з кіраўніцтвам камбіната не знайшлі супольнай мовы», — кажа Аксёнаў.

У аддзеле кадраў камбіната карэспандэнту «Нашай Нівы» заявілі, што прычынай звальнення Аксёнава з'яўляецца заканчэнне кантракта. «Усё па законе, скончыўся кантракт — мы яго не працягнулі». На словы пра тое, што грузчык прадпрыемства называе сябе арганізатарам страйкама, адказалі, што «ён можа што заўгодна расказваць».

# Што думаюць рабочыя пра абарону сваіх правоў?

Апытанне **на прахадной МТЗ**.

У шэрагу рэгіянальных прадпрыемстваў рабочыя заявілі пра выхад з Федэрацыі прафсаюзаў і атрымалі невялікія саступкі з боку кіраўніцтва. А чаго чакаюць ад сваіх прафсаюзаў сталічныя рабочыя — абароны ці падарункаў на Новы год? «НН» апытала рабочых каля прахадной Мінскага трактарнага завода.

**1. Ці адстойвае прафсаюз вашы правы? І чым дапамагае?**
**2. Ці стаў бы прафсаюз на ваш бок, калі б вы змагаліся за большы заробак? Ці гатовыя вы самі змагацца за лепшыя ўмовы працы?**



**1.** Канечне, грошы даюць на гэтую справу! (Жэстам паказвае, што на выпіўку.)
**2.** За большы заробак? 50 на 50. Дайце нам працы болей, будзем працаваць, народ працы не баіцца.



**1.** Дзіцячыя пуцёўкі ў лагер, санаторыі, падарункі на Новы год дзецям і любая дапамога. Яны заўсёды ідуць насустрач.
**2.** Напэўна, але я дакладна не ведаю. Як кажуць, пайшоў да шэфа — не прасі многа: прасі трохі і сыходзь. Самі змагацца? Канечне, усім хочацца мець болей і сям'ю карміць, а цэны, як разумееце, сёння адныя, а заўтра другія, растуць хутка.



**1.** Вось той жа бальнічны ці дапамогу, калі нехта захварэў.
**2.** Складана адказаць на гэтае пытанне, я думаю, што наўрад ці. А наконт змагання, думаю, людзі зараз на гэта не пойдуць. Баяцца.



**1.** Працаваць працей. Калі, напрыклад, ідзеш у адпачынак, то ідуць дадатковыя выплаты. За бальнічны таксама. Агулам нармальна, жывём добра.
**2.** А навошта нам змагацца, нам і так добра, нас задавальняюць заробкі на Трактарным заводзе, нас усё задавальняе.



**2.** Гэта тонкае пытанне. Калі ты нічога не робіш і хочаш многа атрымліваць, то хто на твой бок стане? А калі не адзін станок, а два ці тры, і працуеш «удлінёнкі», то тады можна і патлумачыць нешта, бо з боку ж відней, як чалавек працуе. Таму я думаю, калі ты добры працоўны, то дабіцца зможаш.



**1.** Ведаеце, мае правы ніхто не прышчамляе пакуль што, таму не адчуваю неабходнасці. Трэба будзе — адстаяць. Уся гэтая абарона ад мяне залежыць: прафсаюзы — гэта мае прафсаюзы, як я захачу, так і будзе.



**1.** Не, не дапамагаюць. Яны самі па сабе, мы самі па сабе.



**1.** Я думаю — не вельмі моцна дапамагаюць, таму што залежаць ад адміністрацыі.

**Запісала Настасся Шамрэй**

**Даслоўна**

# Лукашэнка: Аддай «Газпраму» трубы? Так не будзе

Калі кіраўнік краіны **быў шчырым**?

«Прырода гэтых супярэчнасцяў простая — жаданне асобных персон у Расіі шчыльней набіць свае кашалькі, якія захоўваюцца ў заходніх банках, і стаць паўнапраўнымі гаспадарамі на беларускай зямлі. Я бачу адну прычыну — аддай тое, што ў цябе ёсць. Аддай «Газпраму» трубы, нафтаперапрацоўчыя заводы — нафтаперапрацоўчым кампаніям. Але я адразу ясна і выразна сказаў: так не будзе», — казаў Аляксандр Лукашэнка ў 2007 годзе, на прэс-канферэнцыі для расійскіх журналістаў.

«Гэтае рашэнне [па «Белтрансгазе»] развязала цэлы вузел праблем ва ўзаемаадносінах з Расійскай Федэрацыяй. Яны [апаненты] які аргумент прыводзяць? Маўляў, Лукашэнка пазбавіўся рычага націску на Расію. Вар'яты! Як быццам Лукашэнка выхапіць з зямлі гэтую трубу і пачне, размахваючы, бегаць па Расіі, пагражаць Расіі. Ну, гэта што, разумныя людзі?»

Лукашэнка падкрэсліў, што наперадзе вырашэнне яшчэ шэрагу пытанняў, выгадных для Беларусі: «Па нафце таксама цана можа панізіцца, калі мы дамовімся з Расійскай Федэрацыяй», — апраўдваўся Аляксандр Лукашэнка ў 2011-м.

Калі Лукашэнка быў шчырым — чатыры гады назад ці цяпер?

А можа, яму проста выкруцілі рукі, а «беларускі эканамічны цуд» і «ўнікальная палітычная мадэль» зрабілі краіну няздольнаю да правядзення самастойнага палітычнага і эканамічнага курса?

**Мікола Бугай**

**Дыскусія**

# Куды вядуць санкцыі ЕС?

Палітолаг **Дзяніс Мельянцоў**: пара зняць санкцыі.

23 студзеня Рада ЕС прыняла рашэнне пашырыць крытэры выкарыстання персанальных санкцыяў адносна Беларусі. Верагодна, у бліжэйшым будучым «чорны спіс» Еўрасаюза істотна пабольшае.

Разам з тым эфектыўнасць такіх мер Еўрасаюза выклікае вялікія сумненні. За 15 год санкцыяў сітуацыя не толькі не палепшала, але працягвае пагаршацца. На пашырэнне абмежавальных мер з боку Захаду Мінск адказвае ўзмацненнем рэпрэсіяў і антызаходняй рыторыкай.

Меры, што ўжываюцца Еўрапейскім саюзам да Беларусі, могуць называцца санкцыямі толькі ўмоўна. Гэта, хутчэй, абмежавальная мера, скіраваная на краіну, што дазваляе сабе непажаданыя дзеянні з пункта гледжання ЕС.

Паўнавартасныя санкцыі нерэальныя. Еўрапейскі саюз не можа ўвесці сапраўдныя поўнамаштабныя эканамічныя санкцыі (эмбарга, байкот тавараў, замарозка ўсіх рахункаў).

## Супрацоўніцтва сёння — самая моцная санкцыя

Супрацоўніцтва сёння — самая моцная санкцыя. Як гэта ні парадаксальна, але найлепшым сродкам у дадзеных умовах з'яўляецца пашырэнне супрацоўніцтва з Беларуссю ва ўсіх сферах. Адказам на закрытасць і недавер з боку Мінска мусіць быць нарошчванне Брусэлем супрацоўніцтва і камунікацыі на самых розных узроўнях грамадства. Найлепшым чынам гэта можна зрабіць праз адмену Шэнгенскіх візаў для беларусаў. Інвеставанне еўрапейскага бізнэсу ў Беларусь прынясе прыбытак не толькі еўрапейскім фірмам, але і паспрыяе мадэрнізацыі Беларусі, дыверсіфікацыі яе эканомікі, запаволіць нарастаючую залежнасць ад Расіі.

Усё вышэй сказанае не адмяняе важнасці і неабходнасці вызвалення палітычных зняволеных. Але, як паказала гісторыя, вязняў вызваляюць не санкцыі, а дыялог.

# Беларуская «Мара» Сяргея Левіна

**Айчынны пральны парашок пасунуў на рынку заходнія брэнды.**

Пральны парашок «Мара» можна назваць адным з самых паспяховых бізнэс-праектаў 2011 года. Высокі даход ён прынёс не толькі свайму ўладальніку, бізнэсоўцу Сяргею Левіну. Гісторыю прадпрыемства зможа выкарыстоўваць у сваіх інтарэсах і дзяржава. Сапраўды, узорная карцінка для замежных інвестараў — 30-мільённы праект здолеў хутка заняць месца на супернасычаным рынку. У дадатак, фабрыка «Сонца», якая выпускае парашок, пабудаваная не ў Мінску, а ў Асіповічах, што даказвае — прыбытковую справу можна весці і на перыферыі.

А для грамадства пазітыўным знакам будзе перадусім запамінальная рэкламная кампанія, якая была праведзена цалкам па-беларуску і з прыцягненнем зорак айчыннага шоу-бізнэсу. Значыцца, нявартa баяцца «беларускамоўнасці» свайго тавару. Дарэчы, неўзабаве на экранах з'явяцца новыя героі, абяцае кіраўніцтва «Сонца».




### Тавар на перапродаж

Сярод беларускіх прадпрымальнікаў Сяргей Левін вылучаецца тым, што надзвычай лёгка развітваецца з адным бізнэсам і пачынае новы. Прычым кожны раз угода па продажы атрымліваецца надзвычай выгаднай.



Першым такім прыкладам была піваварная кампанія «Сябар». Мадэрнізаваўшы Бабруйскі кансервавы завод, ён праз тры гады прадаў яго і брэнд піва «Баброў» канцэрну Heineken. Пазбыўшыся ў 2007 годзе піўных актываў, Левін шчыльна заняўся безалкагольнымі напоямі. Ягонае прадпрыемства «Старая крэпасць» выпускала сокі і нектары «Сочны» і Exotic. Адваяваўшы вялікую долю беларускага рынку ва ўкраінскіх кампаніяў, бізнэсоўца ў пачатку 2011 года выйшаў з праекта, каб заваяваць новы рынак, цяпер — бытавой хіміі.

### Беларускія грошы з Кіпра

«Мару» нельга назваць праектам выключна Сяргея Левіна. Заснавальнікам фабрыкі «Сонца» з'яўляецца кіпрская кампанія Lebortovo Capital Partners Ltd, акцыянерамі якой з'яўляюцца і літоўскія бізнэсоўцы.

На будаўніцтва трэба было знайсці $30 мільёнаў, чвэрць грошай былі гатовыя даць Міжнародная фінансавая карпарацыя і Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. Аднак Нацбанк заблакаваў іх дапамогу, растлумачыўшы, што прадухіляе легалізацыю злачынных даходаў. У выніку каля 5 мільёнаў еўра пазычыў «Прыёрбанк». Цікава, што спачатку планавалася выкарыстоўваць назву «Свабода», аднак пасля замест яе абралі «Сонца».

Сяргей Левін заяўляў, што быў гатовы замест будаўніцтва новага прадпрыемства ўкласці тыя ж грошы ў баранавіцкі «Бархім». Але падчас перамоваў з уладамі, па словах Левіна, яму было адмоўлена на ўсіх узроўнях. Неўзабаве «Бархім» выставілі на аўкцыён па меншай цане.

### Крызіс у дапамогу

«За паўгода працы на рынку «Мара» заняла 20,2% беларускага рынку, калі лічыць у грошах, і 22,5% — у тонах. Гэта падлікі кампаніі Nielsen, зробленыя ў лістападзе-снежні 2011 года», — кажа дырэктар па маркетынгу Іна Васілевіч. Раней больш за 70% продажаў у Беларусі мелі заходнія Procter & Gamble і Henkel, якія прадавалі свой прадукт пад дзясяткам брэндаў — Tide, Ariel, Persil і іншыя. З айчынных вытворцаў быў прадстаўлены толькі «Бархім», які, аднак, папулярнасцю не карыстаўся.

Калі ж гаварыць непасрэдна пра брэнды, то «Мара» ўжо заняла першае месца ў рэйтынгу продажаў. Вядома ж, сваю ролю ў поспеху айчыннага парашку адыграў крызіс, праз які замежныя тавары падаражэлі ўдвая ці нават утрая. І хоць у «Сонца» імпартная сыравіна таксама складае 85% ад канчатковай прадукцыі, айчынны прадукт дазваляе захаваць параўнальна невысокія цэны.



**Сяргей Левін**

нар. у 1970 у Крупках. Скончыў Суворaўскую вучэльню і Ленінградскую вышэйшую ваенную вучэльню. У бізнэсе з 1994.

Што да паставак за мяжу, то праца толькі наладжваецца. «Мы ўжо прадаём «Мару» ва Украіне. Што датычыцца Еўрасаюза, то кантракт амаль падпісаны і ў найбліжэйшы час пачнуцца пастаўкі ў Прыбалтыку, — адзначае Іна Васілевіч. — Восенню «Сонца» пачало выпуск больш дарагога парашку — April. Але кампанія выпускае не толькі парашкі. У снежні 2011-га з'явіліся сродкі для мыцця посуду і вадкае мыла, таксама пад брэндам «Мара». Дадатковы аб'ём інвестыцый у вытворчасць склаў 3 мільёны еўра».

### Пошук патэнцыялу

Тым часам Сяргей Левін рыхтуецца да запуску новых праектаў. У пачатку года ён пакінуў пасаду кіраўніка прадстаўніцтва інвестыцыйнага банка «Рэнесанс Капітал» у Беларусі. Гэта ўстанова мелася стаць пасярэднікам паміж дзяржавай і прыватным сектарам у прыцягненні грошай у краіну. Цяпер ён засноўвае фонд «Сябар Капітал», які будзе займацца інвестыцыямі ў непублічныя кампаніі, якія яшчэ не паспелі раскруціцца і падаражэць.

**Ягор Марціновіч**

# Бярозаўскі завод Чыжа стаў самым стратным беларускім ААТ

**Лідар ранейшы — «Беларуськалій».**

Міністэрства фінансаў Беларусі апублікавала справаздачы беларускіх ААТ за трэці квартал 2011 года. У ім змяніўся аўтсайдар — замест Мазырскага НПЗ на апошняе месца апусціўся Бярозаўскі камбінат сілікатных вырабаў, які належыць Юрыю Чыжу. За ліпень-верасень 2011 года ён атрымаў стратаў на 18,9 мільярда рублёў. Яшчэ горшая карціна была ў красавіку-чэрвені. Тады завод меў у справаздачы мінус 33,8 мільярда рублёў.

Мазырскі НПЗ тым часам выправіўся і пачаў даваць прыбытак — 45,4 мільярда рублёў за квартал.

Што да лідара, то ў параўнанні з мінулым кварталам ён не змяніўся. «Беларуськалій» атрымаў яшчэ большы прыбытак — 5,69 трыльёна рублёў замест папярэдніх 3,14 трыльёна. Зрэшты, рост рублёвых аб'ёмаў лагічны для экспартаарыентаваных прадпрыемстваў. Курс долара павялічваўся, адпаведна рос і іх прыбытак.

Дэвальвацыя пазітыўна адбілася на дзейнасці малочнай прамысловасці. Ніводнае з прадпрыемстваў гэтага профілю не было стратным. Лідар галіны – гомельскае ААТ «Румянцаўскае». Яно атрымала прыбытку на 66,5 мільярда рублёў, хоць яшчэ пазалетась было адным з найгоршых у краіне.

**ЯМ**

| Прыбытковыя прадпрыемствы | млрд (+) | месца | Стратныя прадпрыемствы | млрд (–) |
|---|---|---|---|---|
| Беларуськалій | 5690 | 1 | Бярозаўскі КСВ | 19 |
| БелАЗ | 948 | 2 | Крычаўскі мясакамбінат | 14 |
| МАЗ | 926 | 3 | Рэчыцапіва | 13 |
| Гродна Азот | 678 | 4 | КІМ (Віцебск) | 11 |
| Гомельтранснафта Дружба | 529 | 5 | Аршанскі мясакансервавы камбінат | 8 |
| Беларуская валютна-фондавая біржа | 249 | 6 | Будаўнічы трэст № 14 | 8 |
| Брэстгазаапарат | 237 | 7 | Маскоўская інвестыцыйная будаўнічая кампанія | 7 |

# Новыя аўтамабілі падаражэюць на 15%

**Гэта патрабаванне Расіі — іначай бы не далі чарговую частку крэдыту.**

У Беларусі адмяняецца льгота пры ўвозе транспартных сродкаў юрыдычнымі асобамі. Адпаведны ўказ Аляксандра Лукашэнкі ўступіў у сілу 24 студзеня.

Згодна з новымі правіламі, будзе прымяняцца поўная стаўка ПДВ у памеры 20%. Раней падатак вылічваўся як розніца паміж коштам рэалізацыі і коштам набыцця аўтамабіляў.

Раней машыны ў Беларусі былі трохі таннейшыя. Напрыклад, новы Volkswagen Passat ComfortLine у Расіі каштуе $31 700. Цяперашні цэннік у нашай краіне складае $30 900, аднак неўзабаве перавысіць $35 тысяч.

А вось расійскія машыны ў цане не зменяцца, што дадаткова павысіць іх прывабнасць.

Адмена льготы па ПДВ — адна з умоваў выдачы трэцяга траншу крэдыту ад Антыкрызіснага фонду Еўразійскага банка развіцця ў памеры $440 мільёнаў.

**ЯМ**

## Сцісла

### Грашовы станок ізноў запрацаваў

Па стане на 1 студзеня рублёвая маса (наяўныя + дэпазіты + каштоўныя паперы) склала 43 трыльёны. За месяц яе рост склаў 13,2%. Для параўнання, аб'ём валютных дэпазітаў і каштоўных папер дасягнуў 67 трыльёнаў рублёў у эквіваленце.

### Рост ВУП спыніўся

На працягу 2011 года тэмпы росту ВУП імкліва скарачаліся і да чацвёртага квартала зменшыліся да нуля. Згодна з падлікамі Белстата, у другім квартале ВУП вырас на 11,4% у параўнанні з аналагічным перыядам папярэдняга года. У трэцім квартале рост склаў усяго 1,9%, а ў чацвёртым — роўна 0%.

### Смалявічы не ў модзе

Будаваць кватэру ў першым горадзе-спадарожніку пагадзіліся толькі 33 мінчукі з чаргі на на паляпшэнне жыллёвых умоў. Згодна з ранейшымі планамі, у Смалявічах маглі б жыць 40 тысяч мінчукоў. Спадарожнік пачнуць будаваць фактычна ў полі ўжо ў сакавіку.

**ЯМ**

# Ладуцька: Снег чысціць павінны і студэнты, і насельніцтва

«Якія пакуль належнага **энтузіязму не праявілі**».

Удзел насельніцтва ва ўборцы снегу павінен быць больш актыўным, заявіў старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька.

Мэр сталіцы перакананы, што расчыстка тэрыторыі горада ад снегу — агульная справа і насельніцтва павінна ўносіць свой уклад разам з камунальнымі службамі. Між тым ён канстатаваў, што ў мінулыя выходныя людзі не праявілі актыўнасці.

«Людзі не выйшлі ў выходныя дні, не расчысцілі тэрыторыю каля сваіх машын, у дварах. Роля і месца насельніцтва ва ўборцы снегу павінны быць абазначаныя», — сказаў Мікалай Ладуцька.

На думку старшыні Мінгарвыканкама, правесці своеасаблівыя суботнікі па навядзенні парадку на сваёй тэрыторыі павінны ўсе суб'екты гаспадарання, а таксама студэнты ВНУ, якія пакуль належнага энтузіязму не праявілі.

«Кіраўнікі аб'ектаў гандлю, грамадскага харчавання, аўтастаянак, дзяржустаноў не забяспечылі ў поўнай меры расчыстку сваіх тэрыторый.

Парковачныя месцы каля крам, рэстаранаў не ачышчаны. Усе ўпаўнаважаныя ад гэтых арганізацый, за якімі замацавана тэрыторыя, калі не выканаюць патрабаванне выканкама па ўтрыманні сталіцы, павінны быць прыцягнуты да адказнасці і аштрафаваныя», — распарадзіўся мэр Мінска.

**Сяргей Гезгала**

**Анекдот у тэму**

Чаму ніхто не папярэдзіў улады, што будзе зіма?



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Звярнуўся чытач**

## «Проста ізалявалі на год»

Чытач даслаў ліст
пра ўмовы ўтрымання
**ў адным з беларускіх ЛПП**.

У «НН» звярнуўся чытач М. з Жодзіна. Ён напісаў пра ўмовы ўтрымання ў адным з беларускіх лячэбна-працоўных прафілакторыяў, куды змясцілі яго жонку. Гаворка пра жаночы ЛПП №2 у вёсцы Стараселле Горацкага раёна Магілёўскай вобласці. Чытач сцвярджае, што насельніцы прафілакторыя са свайго заробку нічога не атрымліваюць — усе грошы нібыта ідуць на аплату харчавання і пражывання. «Проста ізалявалі на год», — піша мужчына.

М. наракае, што яму на спатканне з жонкай адвялі толькі тры гадзіны. Гэта пры тым, што дарога да ЛПП у яго заняла амаль у пяць разоў больш.

У сваім лісце чытач задае шэраг пытанняў наконт працы падобных установаў у цэлым. Чаму ЛПП знаходзяцца ў падпарадкаванні Міністэрства ўнутраных справаў, а не Міністэрства аховы здароўя? Чаму ў накіраваных у прафілакторый няма магчымасці датэрміновага вызвалення? «Таму, што рабочаму трэба плаціць. А грошай у дзяржавы няма. Затое ёсць алкаголікі, няхай яны працуюць на дзяржаву за так. Вось і забіраюць іх у рабства», — выказвае ўласную здагадку М.

### У Беларусі знаходзіцца адзіны ў свеце ЛПП для жанчын

**Афіцыйна**

Намеснік начальніка ЛПП №2 па выпраўленчым працэсе і працы з асабістым складам Юрый Тарасевіч параіў нашаму чытачу азнаёміцца з Законам «Аб парадку і ўмовах накіравання грамадзян у лячэбна-працоўныя прафілакторыі і ўмовах знаходжання ў іх» ад 4 студзеня 2010 № 104-З. «Мы дзейнічаем у адпаведнасці з гэтым законам», — патлумачыў Ю. Тарасевіч. Ён дадаў, што да яго асабіста падобны ліст са скаргай на ўмовы ўтрымання ў ЛПП №2 не прыходзіў.

**Згодна з законам**

Насельнікі ЛПП маюць права на сацыяльны адпачынак з правам выезду за межы ЛПП: на спатканне з жонкай (мужам), блізкімі сваякамі ды іншымі грамадзянамі. Для гэтага неабходна напісаць заяву.

Грамадзяне, змешчаныя ў прафілакторый, абавязаныя кампенсаваць са свайго заробку затраты на харчаванне, адзенне і абутак, камунальна-бытавыя паслугі. Аднак незалежна ад усіх вылічэнняў на асабісты рахунак грамадзян пералічваецца не менш за 25% налічанага заробку і прыроўненых да яго прыбыткаў.

**Адзіныя ў свеце**

Лячэбна-працоўныя прафілакторыі ў Беларусі ствараюцца і ліквідуюцца згодна з рашэннем кіраўніка краіны. Яны знаходзяцца ў падпарадкаванні Міністэрства ўнутраных спраў.

Кантроль за выкананнем заканадаўства здзяйсняе Генпракуратура, за дзейнасцю прафілакторыяў — Дэпартамент выканання пакаранняў МУС, за аказаннем медыцынскай дапамогі — здзяйсняе Мінаховы здароўя.

У краіне дзейнічае 6 ЛПП — па адным на кожную вобласць і два ў Мінскай. У сярэднім за год праз прафілакторыі праходзіць каля 4000 грамадзян.

Старасельскі прафілакторый — адзіная ў свеце падобная ўстанова для жанчын.

На постсавецкай прасторы, акрамя Беларусі, ЛПП дзейнічаюць у Туркменістане. Расія і Украіна, якія колькі год таму ліквідавалі свае ЛПП, у апошні час на ўзроўні ўладаў задумваюцца пра вяртанне падобнай практыкі.

**Сямён Печанко**

**У ЛПП трапляюць**

тыя, хто цягам году тры і больш разы здзяйсняў правапарушэнні ў стане ап'янення. Пасля гэтага міліцыя можа прыцягнуць чалавека да медыцынскага аседчання. Аседчанаму выпісваюць папярэджанне пра тое, што яшчэ адзін учынак у стане ап'янення пацягне змяшчэнне ў ЛПП. Закон дае магчымасць аспрэчваць дзеянні міліцыі на ўсіх этапах.

**Куды звяртацца:**

Дэпартамент выканання пакаранняў МУС

220006, г. Мінск, вул. Аранская, 1.

Прыёмная начальніка:
тэл. (8-017) 218-79-38.

Генпракуратура

220030, г.Мінск,
вул. Інтэрнацыянальная, 22.

Тэлефон для зваротаў грамадзян: (017) 328-55-41.

## 200 мінчукоў пратэстуюць супраць будаўніцтва двух дамоў для спецназаўцаў

Гарадскія ўлады хочуць
**ушчыльніць забудову**
Уручча.

Жыхары мінскага мікрараёна Уручча-2 чарговы раз накіравалі зварот у адміністрацыю Першамайскага раёна з патрабаваннем не будаваць у зялёнай зоне два дамы для супрацоўнікаў спецназа.

Гарадскія ўлады плануюць забудаваць тэрыторыю сквера, які знаходзіцца на скрыжаванні вуліц Шугаева і Русіянава шэсць гадоў. На ўсіх ранейшых грамадскіх абмеркаваннях людзі адназначна заяўлялі пра нязгоду з планамі будаўніцтва шматпавярховых дамоў на месцы зялёнай зоны і накіроўвалі лісты-скаргі ў розныя інстанцыі.

Плануецца, што два жылыя шматпавярховікі будуць пабудаваныя для супрацоўнікаў палка міліцыі спецыяльнага прызначэння (спецназа), якім патрэбна палепшыць свае жыллёвыя ўмовы. Дарэчы, спецназаўцы змогуць атрымаць ільготны крэдыт пад 5% гадавых.

Удзельнікі збору нагадалі ўладам, што шчыльнасць насельніцтва ў мікрараёне ўжо цяпер у разы перавышае нарматывы і дасягае 766 чал/га, а шчыльнасць жыллёвага фонду — 14,048 кв. м/га. У генплане раён пазначаны як «раён з залішне высокай інтэнсіўнасцю шматкватэрнай забудовы».

**Паводле Realt.onliner.by**




**Кропкі над «і»**

## Былы рэпарцёр АНТ апраўданы

Як пісала «НН» у нумары ад 13 ліпеня 2011 са спасылкай на БелаПАН, 31-гадовы Дзяніс Сухавараў, былы рэпарцёр АНТ, быў асуджаны судом Савецкага раёна Мінска да пяці гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і канфіскацыяй маёмасці. Нагадаем, 11 ліпеня суд Савецкага раёна прызнаў яго вінаватым у махлярстве ў асабліва буйным памеры (ч. 4 арт. 209 КК) і прычыненні маёмаснай шкоды без прыкметаў крадзяжу, здзейсненай у буйным памеры (ч. 2 арт. 216 КК).

Як стала вядома праз некалькі месяцаў, па касацыйнай скарзе абвінавачанага той прысуд быў адменены і справа была скіраваная на новы разгляд. 4 лістапада суд Савецкага раёна Мінска вынес былому рэпарцёру АНТ апраўдальны прысуд за недаказанасцю ўдзелу ў здзяйсненні злачынства.

**СМ**

# Калі вызваляюцца палітвязні?

Хтосьці **выйдзе на свабоду ўжо сёлета**, а камусьці сядзець у казематах яшчэ доўга.




Праваабаронцы прызналі палітвязнямі пятнаццаць чалавек. Чатырнаццаць з іх адбываюць рэальныя тэрміны. Сяргей Каваленка знаходзіцца пад вартай у ІЧУ. На яго заведзена крымінальная справа, па якой яму пагражае да трох гадоў пазбаўлення свабоды.

Зміцер Дашкевіч і Дзмітрый Бандарэнка атрымалі па два гады калоніі. Апошняму адмоўлена ва ўмоўна-датэрміновым вызваленні. І калі нічога не зменіцца, абодва палітвязні выйдуць на свабоду сёлета ў снежні.

У верасні 2013 чакаецца вызваленне Аляксандра Францкевіча. Яго асудзілі на тры гады. І хаця прайшла траціна і набліжаецца палова тэрміну зняволення, атрымаць палёгку ў выглядзе змякчэння рэжыму ці УДВ ён не спадзяецца. Праз месяц пасля Францкевіча павінен скончыцца тэрмін «хіміі» ў Паўла Севярынца.

У красавіку 2014 на свабоду выйдзе Мікалай Аўтуховіч. Яго пакаралі пяццю гадамі і двума месяцамі калоніі. А ў снежні — Эдуард Лобаў пасля чатырох гадоў зняволення.

У сакавіку 2015 чакаецца вызваленне Мікалая Дзядка. За кратамі ён павінен прывесці чатыры з паловай гады. А ў снежні заканчваецца пяцігадовы тэрмін Андрэя Саннікава.

У лютым 2016 на свабоду выходзіць Аляксандр Бяляцкі. Яго тэрмін — 4,5 года. У канца года — Мікалай Статкевіч пасля 6 гадоў калоніі.

Апошнімі з сённяшніх палітвязняў чакаецца выхад на свабоду Яўгена Васьковіча, Паўла Сырамалотава, Арцёма Пракапенкі — у студзені 2018. Усіх траіх асудзілі на сем гадоў калоніі. І толькі ў лістападзе на волю выйдзе Ігар Аліневіч. Ён атрымаў найбольшы тэрмін сярод палітвязняў — восем гадоў зняволення.

**Кастусь Матушыч**

Грамадства

## «Можаце збірацца сваім пакоем і глядзець хоць пяць разоў на дзень»



Вось ад такіх кадраў масавых акцый ратуюць моладзь сілавыя структуры. Сакавік 2006, Мінск.

Студэнт даслаў «НН» тэкст размовы з супрацоўнікам КДБ **у дэканаце ўніверсітэта**.

Паводле слоў маладога чалавека, супрацоўнікаў КДБ цікавяць тыя навучэнцы, якія маюць у агульным доступе апазіцыйныя матэрыялы — фільмы «Плошча», «Звычайны прэзідэнт».

«Я — студэнт, вучуся на адным з факультэтаў БДУ, жыву ў інтэрнаце. Мне патэлефанаваў намдэкана і выклікаў на размову. Для мяне гэта было зусім нечакана», — піша хлопец.

«Прыйшоў у дамоўлены час. У кабінеце, акрамя мяне і намесніка дэкана, сядзіць яшчэ адзін чалавек. Сказалі, што выклікалі на сур'ёзную размову, а гэты невядомы чалавек — з КДБ. Дакументаў ён не паказваў. Размаўляў карэктна, без ціску і «наездаў».

— Ці сустракаліся Вы раней з супрацоўнікамі КДБ?

— Не, ніколі.

— Ведаеце, чаму мы з Вамі цяпер размаўляем?

— Не, не ведаю.

— Ці маеце Вы якое-небудзь дачыненне да апазіцыі ці нейкіх рухаў?

— Не маю, мяне не цікавіць сучасная палітыка.

— Ці карыстаецеся Вы Flylink'ам?

— Так, карыстаюся. Гэта праграма для абмену файламі ў нашай сетцы. А што такое?

— Ну, вось мы з маімі калегамі знайшлі ў Вас у агульным доступе фільмы «Плошча», «Звычайны прэзідэнт». Вы ведаеце, што гэтыя матэрыялы палітычныя і забаронены для распаўсюджвання?

— Што палітычныя, ведаю дакладна. А пра забарону я ніколі не чуў, у нас у сеціве шмат у каго ёсць.

— А ў каго? Прозвішчы?

— Ды самі паглядзіце, Вы ж мяне знайшлі. Я проста паглядзеў гэтыя фільмы, іх забаронена глядзець?

— Глядзець не забаронена. Можаце збірацца сваім пакоем і глядзець хоць па пяць разоў на дзень. Але вось калі Вы пачынаеце распаўсюджваць — гэта рабіць нельга.

— Добра, я сёння ж выдалю іх са спісу.

— На сённяшні момант я Вас папярэдзіў, будзем лічыць пытанне закрытым. Але! Я хачу, каб Вы разумелі, што я магу лёгка зайсці да рэктара альбо дырэктара студгарадка, нават зараз магу. Вы мяне разумееце?

— Канечне, я ўсё зразумеў...

— Вы ж павінны зразумець, што нас цікавяць матэрыялы, якія могуць паўздзейнічаць на вас. Каб вы не сапсавалі сваё жыццё. У сетках ёсць людзі, якія гандлююць наркотыкамі, распаўсюджваюць інфармацыю, як рабіць выбуховыя прылады, заклікаюць на «Майданы». Мы павінны абараняць вас — моладзь — ад гэтага».

...Такі дакумент эпохі паказвае, якія фільмы турбуюць КДБ. І атмасферу ў нашых «свабодных» універсітэтах, дзе намеснікі дэканаў атрымліваюць новыя «функцыі». А факт, што студэнт вырашыў запісаць размову і даслаць яе ў незалежную газету, красамоўна паказвае, што такі палітычны кантроль юнакоў раздражняе, здаецца ім маразматычным.

**Аксана Рудовіч**

## «Саннікаў выглядае нядрэнна»

20 студзеня з палітыкам **сустрэлася адвакатка** Марына Кавалеўская.

На сустрэчы з адвакатам Саннікаў амаль нічога не сказаў пра сябе. Абмежаваўся агульнымі фразамі: «у мяне ўсё нармальна». Жонка вязня Ірына Халіп мяркуе, што яе мужу абмежавалі тэмы, на якія ён можа размаўляць і пісаць.

Размова адбывалася «праз шкло». Па словах адваката, палітык выглядае нядрэнна. Яго перавялі з памяшкання камернага тыпу ў атрад, дзе ён знаходзіцца сярод людзей, а не ў ізаляцыі.

Ірына Халіп не разумее, дзеля чаго павінен быў «спектакль», калі да экс-кандыдата ў прэзідэнты два месяцы не пускалі адвакатаў. Адзінае тлумачэнне бачыць у тым, што чакалі, пакуль сыдуць сляды катаванняў.

Нагадаем, Андрэя Саннікава не бачылі больш за два месяцы — з 8 лістапада. Адвакатаў не дапускалі з тлумачэннем, што кандыдат не мае патрэбы ў юрыдычнай дапамозе. Сустрэча з падабаронным стала магчымай толькі пасля таго, як адвакаты падалі пазоў у суд на дзеянні начальніка віцебскай калоніі «Віцьба-3».

**СМ**

## Былы палітвязень арыштаваны па падазрэнні ў крадзяжы металалому

**Аляксандра Малчанава затрымалі** ў Жодзіне 13 студзеня.

Цяпер былы палітвязень, фігурант справы 19 снежня знаходзіцца ў СІЗА.

Аляксандра затрымалі на тэрыторыі кавальскага завода ў Жодзіне. «Памілаванне нічога не значыць, — кажа мама Малчанава Галіна Андрэеўна. — Ніхто не хацеў яго браць на працу. Саша пайшоў на курсы прадпрымальніцтва, а таксама кіроўцаў грузавікоў. Хацеў зарэгістравацца як ІП».

«Пакуль працы не было, ён разам з сябрам ездзіў па розных звалках, дзе шукаў на здачу металалом. Не ведаю, як ён трапіў на ахоўваемую тэрыторыю завода. Праваахоўнікі кажуць, што ён скраў металалому на суму 450 тысяч рублёў».

Аляксандр Малчанаў быў тым чалавекам, што ўвечары 19 снежня 2010 змясціў бел-чырвона-белы сцяг на будынку КДБ. Быў асуджаны на 3 гады турмы, але памілаваны Лукашэнкам у верасні. Пакаяльныя лісты не пісаў. «Я не магу звяртацца да чалавека, якога не лічу прэзідэнтам», — казаў Малчанаў.

Па вызваленні праблемы ў яго не спыніліся. Нейкі час ён сядзеў у ІЧУ Барысава па падазрэнні ў заліванні фарбай дзяржаўных чырвона-зялёных сцягоў. Але тады віну хлопца даказаць не ўдалося.

Вядома, што сябрам Малчанава тэлефануюць з міліцыі, каб тыя далі паказанні па справе з металаломам. У СІЗА хлопца будуць трымаць да суда. Іншую меру стрымання не выбралі з-за яго ранейшай судзімасці.

**Зміцер Панкавец**

Сцісла

### Каваленку кормяць прымусова

Арыштаваны актывіст КХП-БНФ з Віцебска Сяргей Каваленка трымаў галадоўку амаль месяц. І афіцыйна з яе не выйшаў. Але як паведамілі яго жонцы, мужа пачалі карміць прымусова. Прадстаўнік медсанчасці сказаў, што Сяргея кормяць праз зонд. Таксама Алена Каваленка атрымала трэцюю адмову ў сустрэчы з мужам. Спатканне з сынам не дазволілі і яго маці. Спатканні лічаць немэтазгоднымі.

### Аўтуховіча перавялі ў турму

Следам за Мікалаем Статкевічам на турэмны рэжым перавялі і палітвязня Мікалая Аўтуховіча. Судовы разгляд ініцыявала адміністрацыя калоніі №5 у Івацэвічах. Нібыта Аўтуховіч парушаў рэжым і заслугоўвае больш жорсткіх умоваў утрымання. Суд жа палічыў, што асуджаны не стаў на шлях выпраўлення. На турэмным рэжыме ваўкавыскі прадпрымальнік павінен правесці рэшту свайго зняволення.

**КМ**

# На працы доктара навук Абельскай амаль няма спасылак

**У аўтарытэтнай базе навуковага цытавання Scopus прозвішча Абельскай узгадваецца толькі раз.**

Былая асабістая доктарка Аляксандра Лукашэнкі прэзентавала даследаванне на тэму «Шыйны остэахандроз прамянёвая візуалізацыя і тэхналогія медыцынскай рэабілітацыі пацыентаў». У выніку ў снежні прэзідыум ВАК прысудзіў галоўнай лекарцы прэзідэнцкай бальніцы ступень доктара навук.

Ацаніць вядомасць Абельскай у міжнароднай супольнасці медыкаў можна пры дапамозе індэксаў цытавання — паказчыка значнасці прац навукоўцы, які вызначаецца колькасцю спасылак на яго публікацыі.

У найаўтарытэтнейшай базе навуковага цытавання Scopus прозвішча Ірыны Абельскай узгадваецца толькі адзін раз — у сувязі з яе даследаваннем The multistage rehabilitation system for sick and disabled people («Шматступенчатая сістэма рэабілітацыі хворых і інвалідаў»).



Ірына Абельская — выпускніца Мінскага медінстытута па спецыяльнасці «педыятрыя». У 1990—1994 працавала кансультантам-эндакрынолагам у 9-й клінічнай бальніцы. Была асабістай дакторкай Лукашэнкі. Дачка былога міністра аховы здароўя Людмілы Пастаялкі. У 2001—2007 і з 2009 — галоўны лекар медыцынскага цэнтра Кіраўніцтва справамі прэзідэнта.

**Ірына Абельская (у цэнтры) разам з калегамі.**

Scopus — найбуйнейшая мультыдысцыплінарная рэфератыўная база дадзеных. Яна абнаўляецца штодзённа. Індэксуе 17000 назваў навуковых выданняў па тэхнічных, медыцынскіх і гуманітарных навуках.

Аўтарытэтны Расійскі індэкс навуковага цытавання (РІНЦ) дае дзве спасылкі на публікацыі Абельскай.

Гэта яе інтэрв'ю часопісу «Репродуктивное здоровье в Беларуси». Ніводнай цытаты ў РІНЦ на гэтае інтэрв'ю няма.

У індэкс таксама трапіла публікацыя «Актуальныя аспекты рэнтгеналагічнай дыягностыкі остэахандрозу шыйнага аддзела хрыбта на этапах медыцынскай рэабілітацыі» ў часопісе «Вестник рентгенологии и радиологии».

У Нацыянальнай бібліятэцы пошукавік выдае 16 пазіцый на Ірыну Абельскую. Гэта яе аўтарэфераты дысертацый на атрыманне спачатку ступені кандыдата медыцынскіх навук, публікацыі ў навуковых зборніках.

**Кастусь Матушыч**

## З'явілася каўбаса для мільянераў




У продаж у адным з мінскіх гіпермаркетаў паступіла кілбаса па цане амаль мільён рублёў за кілаграм. Прадаўцы сцвярджаюць, што ў склад іспанскага далікатэсу каштоўныя металы і камяні не ўваходзяць.

Сыравэнджаная кілбаса Cana de lomo вытворчасці Іспаніі па кошце 930650 рублёў за кілаграм суседзіць на прылаўку з кілбаснымі вырабамі беларускай вытворчасці коштам ад 94 890 да 114 800 рублёў.

**Naviny.by**

## Заўзятары «Дынама» — за беларускую мову

**Пачаўся збор подпісаў**, каб суправаджэнне матчаў КХЛ вялося па-беларуску.

Балельшчыкі дабіваюцца, каб дыктарскае і дыджэйскае суправаджэнне падчас хакейных матчаў было па-беларуску. Гэткім чынам яны спадзяюцца падкрэсліць самабытнасць, унікальнасць і арыгінальнасць свайго клуба.

Ініцыятары прапануюць узяць урокі ў рыжскага «Дынама», а таксама ў славацкага «Льва». Петыцыю ў інтэрнэце ўжо падпісалі больш за тысячу чалавек.

**ЗП**




А вось прозвішчы на майках хакеістаў КХЛ запатрабавала ўніфікаваць з расійскімі правіламі.

**Фотафакт**




**Кампанія «Стацкевіч-спецвопратка», якая займаецца вытворчасцю і продажам спецвопраткі, працоўнага абутку і сродкаў індывідуальнай абароны, выпусціла арыгінальны імідж-каляндар на 2012 год. Для гэтага яна прыцягнула творчы калектыў з дванаццаці дзяўчат. Частка календара выстаўлена на сайце кампаніі.**

**Сямён Цыбульскі**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Цёмныя вокны

Мінскія ўлады вырашылі ўпрыгожыць горад помнікамі, прысвечанымі розным гістарычным падзеям і асобам. Спіс выкладзены на сайце гарвыканкама, кожны можа пазнаёміцца з ім і нават прагаласаваць, ці то за першага мінскага князя Глеба, ці то за Пятра Машэрава... Галоўнае ж месца адведзена мемарыяльнай кампазіцыі «1000-годдзе беларускай дзяржаўнасці», пералічаны нават дзеячы, якія ўсталёўвалі гэту дзяржаўнасць, — ад Усяслава Чарадзея да Івана Шамякіна ды многіх іншых... Паколькі кожнаму з гэтага велізарнага спіса надаць выгляд помніка немагчыма, прапануецца стварыць нейкі абагульнены, збіральны вобраз, які «позволит создать в столице значимый познавательный туристический объект...».

Такі вось «план манументальнай прапаганды»...

Не ведаю, як суаднясецца з гэтым планам камень, які паўстагоддзя таму ўсталявалі на невялічкай плошчы ля Заходняга моста.

Узвышалася на гэтай плошчы, за зялёным, здаецца, плотам, драўляная цэркаўка. Хлопчыкам я заходзіў у гэту цэркаўку, душа замірала ад песнапенняў ды таямнічай раскошы...

Потым царкву знеслі. А на плошчу прывезлі камень.

Праходу да кветніка, дзе хаваецца камень, цяпер няма. Ухіляючыся ад аўто, я ўсё ж дабраўся да яго, прачытаў ледзь бачныя літары: «Здесь будет установлен памятник Александру Мясникову, видному деятелю Коммунистической партии».

Будзе ўсталяваны...

Вось і скажыце цяпер, што ў будучыні няма мінулага.

А ў мінулага будучыня ёсць?

Я адказаў бы, што ёсць, каб не тая цэркаўка.

Ды не цёмныя вокны.

Я ўбачыў іх зусім выпадкова, калі ў чаканні зялёнага святлафора на праспекце Незалежнасці немаведама чаму ўзняў вочы ўгору. Зіхацелі ліхтары, бруілася падсвечанае

## Няма розніцы, ідэалогія рухае разбуральнікамі ці камерцыйны разлік

паветра... Толькі не свяцілася цёплым хатнім агеньчыкам аніводнае акно ў дамах па абодва бакі праспекта, праўда, чамусьці на двух ці трох апошніх паверхах...

З таго даволі даўняга часу кожны раз, калі позна ўвечары рухаюся ўздоўж праспекта, я гляджу на тыя вокны.

Але святла там няма.

Чаму так? Хто ведае. У мяне сваё тлумачэнне: жыхары ці сышлі ў нябыт, ці кудысьці далёка з'ехалі... Рыэлтары гавораць, што лепшыя кватэры ў цэнтры скупляюць заможныя расіяне. Але самі тут не жывуць, чакаюць, пакуль іх цана наблізіцца да цаны кватэр за маскоўскімі вокнамі...

Няма пераліку тых, хто ў розныя часы па розных разбуральных абставінах знік з твару мінскай зямлі, пакінуўшы пасля сябе цёмныя вокны...

...Не ведаю, ці галасавала за які-небудзь помнік са звышзгаданага спіса жанчына сярэдняга ўзросту, у старамодных акулярах, падобна, настаўніца, якую я сустрэў ў завулку, дзе яшчэ месцяцца польскае пасольства і Дом літаратараў. Рыпеў у паваротах высачэзны кран, аднекуль з вышыні сыпаліся іскры зваркі...

«Вось бачыце, — сказала жанчына. — Ужо сюды дабраліся... А такі прыгожы домік стаяў, сад... Я на Бранявым жыву, тут недалёка. Дык ужо і да нас прыходзілі, пойдзем, мусіць, пад знос...»

Так, я ведаў гэты «домік», дзе доўгі час існаваў Саюз журналістаў, а да таго хтосьці жыў.

Але і гэты домік напаткаў трагічны лёс знікнення з твару мінскай зямлі...

Зніклі з твару мінскай зямлі старыя дрэвы Цэнтральнага дзіцячага парку. І маладзейшыя дрэвы іншага парку, аддадзенага кітайцам пад будаўніцтва гатэля «Пекін»... Знікла з твару мінскай зямлі старадаўняя электрастанцыя, якая асвятляла ацалеўшыя мінскія вокны пасля вайны... Няма пераліку таго, што ў розныя часы знікла і зараз знікае з твару мінскай зямлі. Няма больш спрадвечнага Горада. Ёсць толькі месца, дзе ён калісьці быў...

Што ж, скажа нехта, ідзе час, старое саступае новаму, сучаснаму.

Магчыма, і так.

Але якая смяротная хада ў гэтага «новага, сучаснага»! Як руйнуе яно тое, што не паспелі зруйнаваць вайна і бальшавіцкая навалач! Як нахабна шчэміцца паміж тым, што яшчэ засталося, надаючы яму выгляд фальшывай дэкарацыі ў марным спадзяванні на незлічоных замежных турыстаў...

І тут няма розніцы, ідэалогія рухае разбуральнікамі ці камерцыйны разлік.

...Калі б у мяне сапраўды спыталі, якога помніка не хапае роднаму гораду, я адказаў бы: Мінскаму Старажылу.

Чалавеку... Доміку... Дрэву...

Такі вось атрымліваецца збіральны вобраз.

Але каму ж яшчэ ставіць помнікі, як не таму, хто зусім знік?..

# Дзе адпачылі зімой беларускія футбалісты?

Для адпачынку гульцы выбіраюць **Эміраты, Мальдывы, Егіпет, Чэхію**.

Зіма — перыяд міжсезоння ў айчынным футболе. Спартсмены маюць некалькі тыдняў адпачынку. Некаму дастаткова адпачынку з сям'ёй на лецішчы, але большасць усё ж марыць пра адпачынак на пляжах у заморскіх краінах.

### ААЭ — самы пашыраны маршрут

Адно з улюбёных месцаў для адпачынку нашых футбалістаў — Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Нападаючы БАТЭ Арцём Канцавы з жонкай Наталляй і сынамі не ўпершыню наведалі гэту краіну. Вельмі ўразіла архітэктура Дубая, у тым ліку «Бурдж-Халіф» — самы высокі будынак у свеце. Ну і безумоўна — мора, сонца, пясок.

Футбалісты мінскага «Дынама» — таксама частыя госці Эміратаў. Перад Новым годам там пабываў паўабаронца клуба Аляксандр Перапечка з дзяўчынай Аленай. А Новы год Аляксандр сустрэў у Мінску з сям'ёй.

Дзмітрый Камароўскі, паўабаронца салігорскага «Шахцёра», адпачываў у гэтай арабскай краіне з дзяўчынай Кацяй і сябрамі-футбалістамі Сяргеем Паліцевічам, Міхаілам Афанасьевым, Станіславам Драгуном ды іншымі.



Арцёму Канцавому на Новы год у Дубаі мерзнуць не давялося.

**Колькі каштуе адпачынак*?**

Мальдывы — $3000

ААЭ — $2000

Егіпет — $1600

Прага, Чэхія — $1250

Санаторый «Азёрны» — $530

*цэны на пуцёўкі ў лютым 2012 на дваіх чалавек на сем начэй у пяцізоркавым гатэлі.

### Глеб злавіў мурэну, а Бага не дабраўся да пірамід

Зоркі беларускага футбола браты Аляксандр і Вячаслаў Глебы гэтым разам адпачылі на Мальдывах. Рыбалка, тэніс, водныя працэдуры, плаванне з акуламі і дэльфінамі... Энергіі і станоўчых эмоцый пасля такога адпачынку хопіць надоўга.

Жонка Вячаслава Глеба злавіла баракуду (драпежная рыба), а сам Аляксандр адзначыўся мурэнай (з сямейства вугровых).

А надзея нашага футбола Дзмітрый Бага з БАТЭ лічыць, што галоўнае ў адпачынку — добрая кампанія. Разам з аднаклубнікамі Ягорам Філіпенкам, Філіпам Рудзікам, Кірылам Алексіянам ды іншымі хлопцамі з каманды ён махануў у Егіпет. «Больш за ўсё мне спадабалася мая кампанія», — кажа футбаліст. Да пірамідаў і іншых славутасцяў гэтай краіны яны так і не дабраліся.

### У Празе без снегу

Сем'і старажылаў БАТЭ Аляксандра Юрэвіча і Дзмітрыя Ліхтаровіча на Новы год былі ў Празе. Усё спадабалася: горад, экскурсіі і перадсвяточныя кірмашы. Адзіны мінус — не было снегу на Новы год. На мора ў гэтым годзе Юрэвічы не паехалі, затое наведалі санаторый «Азёрны» што на Гродзеншчыне. Выпаў снег, надвор'е было як у казцы.

Нападаючы зборнай Віталь Радзівонаў з сям'ёй тры тыдні правёў у Чэхіі: у Празе і Карлавых Варах. Праўда, не ўдалося патрапіць на святочную вечарыну ў іх гатэлі Hilton Praha. Акурат перад святам жонка з дачкой захварэлі, у малой тэмпература паднялася да 39 градусаў. Таму Новы год давялося сустрэць у ложку.

У Карлавых Варах Віталь праходзіў курс рэабілітацыі пасля летняй траўмы нагі. Непрыемны «сюрпрыз» здарыўся ў гатэлі. «Мы аплацілі вельмі добры 2-пакаёвы нумар, вялікі і прыгожы. А ў выніку

**Старажыл БАТЭ Аляксандр Юрэвіч адпачываў у санаторыі «Азёрны» на Гродзеншчыне**

атрымалі зусім не тое», — кажа жонка Валянціна. Як высветлілася, турфірма памылілася і заказала нумар іншай катэгорыі. Давялося заплаціць за іншы пакой. Цяпер турфірма адмаўляецца кампенсаваць сям'і футбаліста панесеныя страты ў поўным памеры. «Цікава, што гэта фірма абслугоўвае БАТЭ, і такое стаўленне...» — скардзіцца Валянціна.

Нягледзечы на гэта, Віталь прызнаўся, што ўпершыню так добра адпачыў і душой і целам.

### Не паехалі нікуды

Ігар Стасевіч адпачываць нікуды не паехаў, бо гадуе 3-месячнага сына Стася. Ды яшчэ і наклаўся пераход у склад мінскага «Дынама». Галкіпер «Гомеля» Уладзімір Бушма таксама не пакідаў межы Беларусі. «Быў свой клопат, і фінансы на той момант не вельмі дазвалялі гэта зрабіць. Ды і так было куды іх патраціць».

**Аксана Рудовіч**



Надзея БАТЭ Кірыл Алексіян з сябрамі пагрэўся ў Егіпце.



Вячаслаў Глеб з жонкай Вольгай лавілі баракудаў на Мальдывах.



А вось Ігар Стасевіч замест пляжаў няньчыўся з трохмесячным сынам Стасем.

GOALS.BY



Юрэвічы вырашылі палюбавацца Златай Прагай.

# Аматар абсэнту

Хлопец прадаваў у інтэрнэце напой **па $80 за бутэльку**. Цяпер яму пагражае штраф.

22 студзеня на тэрыторыі гарналыжна-спартовага аздараўленчага комплексу «Лагойск» затрымалі 20-гадовага мінчука. Студэнт-другакурснік аднoй са сталічных ВНУ прадаваў немаркіраваныя алкагольныя напоі — без беларускіх акцызаў. У хлопца канфіскавана 12 бутэлек абсэнту — усяго 10,8 літра. Яго кошт ацэнены ў 8 мільёнаў 112 тысяч рублёў.

Як паведамілі «НН» у групе па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Лагойскага РАУСа, алкаголь быў выраблены ў Італіі, а ў Беларусь паступаў з Расіі.

**Канфіскавалі гарэлкі на 700 млн рублёў**

У грамадзяніна Расіі, які правозіў 20 000 бутэлек гарэлкі з Ульянаўска ў Вільню. Груз перавозіўся без абавязковага суправаджэння Дэпартаментам аховы МУС Беларусі. Фірма, якая займалася транспарціроўкай алкаголю, аштрафавана на 140 млн рублёў.

Продажам прадпрымальны студэнт займаўся праз інтэрнэт. Затрымалі ж мінчаніна пры чарговай спробе прадаць яго ў ГСАК «Лагойск», дзе была дамоўлена сустрэча з кліентам. На маладога чалавека склалі адміністратыўны пратакол за парушэнне Дэкрэта «Аб дадатковых мерах па дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці і звароту алкагольнай, нехарчовай спіртаўтрымліваючай прадукцыі, спірту этылавага з нехарчовай сыравіны». Цяпер яму пагражае штраф у памеры ад 5 да 20 базавых велічынь (175—700 тысяч рублёў). Алкаголь канфіскаваны.

У ГБЭЗ адзначылі, што абсэнт у Беларусі — не забаронены напой, як пра тое мяркуюць многія. Забаронена вырабляць яго ў хатніх умовах (як і самагонку) і прадаваць. Бо абсент пры пэўных акалічнасцях мае наркатычны эфект.

Робяць яго з палыну, які ўтрымлівае рэчыва туён. Вялікая канцэнтрацыя гэтага рэчыва і можа выклікаць галюцынацыі. Але купіць абсэнт у Беларусі амаль немагчыма. Яго продажам займаюцца, як правіла, прыватныя асобы нелегальна. Аматары гэтага напою аддаюць перавагу ўласна выробленаму. Яго рэцэптаў поўна ў інтэрнэце.

### Абсэнт у Беларусі забаронена толькі вырабляць, а не ўжываць »

Абсэнт добра адлюстраваны ў мастацтве. Напрыклад, французскі паэт Поль Верлен называў напой «зялёнай вядзьмаркай» і заклікаў забараніць «крыніцу вар'яцтва, злачынстваў, ідыятызму і ганьбы».

У Пабла Пікаса ёсць карціна «Аматар абсэнту». Любіў гэты напой Эрнэст Хемінгуэй. Не застаўся абсэнт па-за беларускім культурным кантэкстам — у «Крамбамбулі» ёсць аднайменная песня.

**Сяргей Макарэвіч**



Абсэнт мае смарагдава-зялёны колер і характэрны анісавы пах.




Абсэнт — гэта атрута. Плакат стагадовай даўніны.

**Абсэнт**

моцны алкагольны напой, які звычайна ўтрымлівае каля 70% алкаголю (часам і да 86%). Ёсць «аблегчаныя» варыянты з 60—65% спірту. Найважнейшы кампанент абсэнту — экстракт гаркавага палыну, у эфірных маслах якога ўтрымліваецца вялікая колькасць туёну. Туён — рэчыва, якое для чалавека з'яўляецца таксічным. З ім звязваюць галюцынацыі, якія часам узнікаюць пры ўжыванні абсэнту.

У Еўрапейскім Саюзе ўведзены абмежаванні па ўтрыманні туёну ў абсэнце. Да 5 мг/кг у напоях з доляй спірту да 25%, 10 мг/кг у напоях з доляй спірту больш за 25% і да 35 мг/кг у бітэрах (алкагольных напоях на травах). З большай канцэнтрацыяй туёну абсэнт дазволена вырабляць у Галандыі, Швейцарыі, Чэхіі.

# Кіроўца, пазбаўлены правоў, збіў насмерць двух мінакоў

Мінакі ішлі па неасветленай дарозе **без флікераў**.

Трагедыя здарылася ўвечары 20 студзеня недалёка ад пасёлка Гарадзішча Мінскага раёна. Кіроўца, якога ў 2010 пазбавілі правоў за кіраванне ў нецвярозым стане, збіў насмерць двух мінакоў. Аднаму з іх было 16 гадоў.

Паводле афіцыйнай версіі, жыхар вёскі Слабадзішча (1995 г.н.) і беспрацоўны жыхар Мінска (1984 г.н.) ішлі па неасветленым участку дарогі па краі праезнай часткі. Абое не мелі флікераў. У гэты момант у спадарожным накірунку на Chrysler PT Cruiser ехаў кіроўца 1986 г.н. Ён не заўважыў пешаходаў і збіў іх. Ад моцнага ўдару абое загінулі на месцы.

Партал Auto.onliner.by прыводзіць словы відавочцаў, якія былі на месцы трагедыі ў першыя хвіліны. Адзін з іх расказвае, што разам з супрацоўнікамі ДАІ шукаў у снезе фрагменты аўто, што збіла мінакоў. Знайшлі разбітае люстэрка з лагатыпам Chevrolet. Інспектары нібыта адразу паведамілі пра гэта па рацыі, але праз 10 хвілін на месца здарэння з'явіўся віноўнік аварыі на Chrysler.



FLICKR.COM

Трагічнае здарэнне каля Гарадзішча ў чарговы раз нагадала пра праблему кіроўцаў, якія, нягледзячы на пазбаўленне правоў, выязджаюць на дарогі і папаўняюць сумную статыстыку ДТЗ.

У сваю чаргу, пешаходам варта памятаць, што, выходзячы на дарогу ў цёмны час сутак, варта паклапаціцца пра сваю бяспеку. У зімовы час, калі ўзбочыны дарог часта застаюцца непрыбранымі ад снегу і пешаходам даводзіцца ісці па краі праезнай часткі, гэта робіцца жыццёвай неабходнасцю.

**Падрыхтаваў Сямён Печанко**




AUTO.ONLINER.BY

**За выходныя на дарогах загінулі 8 чалавек**

З іх 5 чалавек — у лабавых сутыкненнях. Так, у Лепельскім раёне 22 студзеня сутыкнуліся «Опель Корса» і «Фальксваген Гольф». У аварыі загінула жыхарка Віцебска 1986 г.н., а таксама дачка кіроўцы 2008 г.н. Дзяўчынка на момант аварыі сядзела на руках у пасажыркі. У аўто не было адмысловага дзіцячага крэсла бяспекі.

# Забілі двух немаўлят

Маладыя жанчыны **знаходзіліся ў псіхатраўмуючай сітуацыі**, выкліканай родамі.

У Рагачове труп немаўляці знайшоў 9 студзеня на палігоне тэхнічных бытавых адкідаў жыхар вёскі Забалацце. Хлопчык быў захутаны ў сінюю прасціну. Смерць наступіла ў выніку пераахалоджвання.

Падчас правядзення папярэдняга следства стала вядома, што злачынства здзейсніла 26-гадовая жанчына. 5 студзеня яна выкінула немаўля ў бак для смецця побач з домам. Прычынай такога ўчынку называецца псіхатраўмуючая сітуацыя, выкліканая родамі. Жанчыне пагражае абмежаванне альбо пазбаўленне свабоды тэрмінам да пяці гадоў.

У Пінску 18-гадовая студэнтка Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі падазраецца ў забойстве дачкі. Паводле следства, пінчанка, якая знаходзілася ў акадэмічным адпачынку, 13 студзеня нарадзіла дома і задушыла немаўля. Труп дачкі выкінула ў кантэйнер для смецця. Жанчына знаходзіцца ў бальніцы.

**КМ**

## Сцісла

**«Замініравала» кватэру**

18 студзеня ў міліцыю патэлефанавала невядомая і паведаміла, што ў пад'ездзе дома па вул. Першамайскай у Магілёве закладзена выбуховае прыстасаванне. У выніку праверкі ніякай выбуховкі спецыялісты не знайшлі. Жанчыну, якая тэлефанавала, адшукалі. Ёй аказалася 31-гадовая жыхарка абласнога цэнтра, якую раней судзілі за крадзеж і падпал. Заведзена крымінальная справа па частцы 1 артыкула 340 КК (загадзя лжывыя сведчанні аб небяспецы).

**У забойстве непаўналетняй выставілі абвінавачванне**

17-гадоваму жыхару вёскі Лядзец Столінскага раёна выстаўлена абвінавачванне ў забойстве Юліі Ляшук. 13-гадовая школьніца знікла ў навагоднюю ноч. Праз два тыдні пошукаў яе труп знайшлі закапаным непадалёк ад вёскі Лядзец. Прычынай забойства называецца непадзеленае каханне.

Абвінавачванне прад'яўлена па ч.1 арт 139 КК РБ «Забойства». Згодна гэтага артыкула, абвінавачанаму пагражае ад 6 да 15 гадоў турэмнага зняволення.

**КМ**

# Гісторыя стагоддзя ў мастацтве

Выдатная кніга **Сяргея Харэўскага**.

Гэтая кніга пісалася многа гадоў. Першыя яе часткі друкаваліся ў «Нашай Ніве» ў 1990-я. У сённяшнім 400-старонкавым выглядзе з ілюстратыўным дадаткам і навукова-даведачным апаратам кніга можа быць падручнікам па гісторыі беларускага мастацтва. Можа яна быць і дапаможнікам па гісторыі XX стагоддзя — вызначальнага для беларусаў часу, калі нацыя афармлялася палітычна і здабывала дзяржаўнасць.

**Сяргей Харэўскі**

Нарадзіўся ў 1967. Мастак, мастацтвазнаўца, аўтар «НН» ад моманту яе аднаўлення. Аўтар кніг «Звяры-суайчыннікі» (2000), «Гісторыя мастацтва і дойлідства Беларусі» (2007), «Прамоўленае: эсэ і лекцыі» (2008), «Культавае дойлідства Заходняй Беларусі 1915—1940 гг.» (2008). Жыве ў Мінску.



Сяргей Харэўскі ўключае ў беларускі кантэкст і Шагала, і Малевіча.

Аўтар надае вялікую ўвагу гістарычным абставінам стварэння карцін, фота і архітэктурных аб'ектаў. Дазнаёмся, напрыклад, што мастак Ілля Рэпін перапісваўся з экс-старшынёй урада БНР Язэпам Варонкам, што стваральнік эпахальнага палатна «Мінск. 3 Ліпеня» Валянцін Волкаў у часе вайны маляваў партрэты нямецкіх адміністратараў, што драўляны Скарына Глебава — гэта насамрэч Купала ў вобразе Скарыны.

У кнізе мноства імёнаў, вернутых беларускай культуры. Напрыклад, стваральнік помніка Кацярыне II Марк Антакальскі, архітэктар тэатра ў Бабруйску Андрэй Оль, народны мастак СССР Георгій Ніскі, класік польскага экспрэсіянізму Яўген Жак. Прадстаўленыя і асобы, без якіх выяўленчае мастацтва і фота сёння немагчыма ўявіць — ад Рушчыца, Драздовіча, Лангбарда да Селешчука, Пазняка і Цэслера.



**Сяргей Харэўскі «Сто твораў XX стагоддзя: нарысы па гісторыі мастацтва і архітэктуры Беларусі найноўшага часу»**

Кніга выйшла ў Вільні, дбаннямі выдавецтва ЕГУ. Наклад яе малы, усяго 200 асобнікаў.

...Незадоўга да завяршэння працы са «Ста творамі» ў невялічкім рабочым кабінеце аўтара абрынуліся цяжкія паліцы. На іх да самай столі высіліся кнігі па мастацтве. На шчасце, Сяргей Харэўскі не пацярпеў. Дык зычым аўтару здароўя і чакаем новых твораў!

**Сяргей Мікулевіч**

**Музыка**

## Здавалася б, прычым тут Пуцін?

**«Ляпіс Трубяцкой» зняў кліп** на новую песню «Пуцінарода».

Гурт Сяргея Міхалка, забаронены ў Беларусі, працягвае пастаханаўску «даваць дзве нормы ў дзень», радуючы прыхільнікаў усё новымі здзяйсненнямі. Кліп на песню «Пуцінарода», якая ўвойдзе ў новы альбом «Ляпісаў», зняў у Маскве рэжысёр Аляксандр Сцекаленка.

«Ідэя гэтага кліпа — ілюстрацыя ўяўленняў аб раі, зробленая ў вульгарна-гламурнай форме, — кажа рэжысёр. — Мы напоўнілі кліп фантасмагарычнымі вобразамі, якія паказваюць пашыраныя ўяўленні аб багацці, аб парадку: райская крама, райскія жлабы, райскія патрыёты...»

Чалавек без культуралагічнай падрыхтоўкі пабачыць у кліпе Міхалка і яго сяброўку Святлану Зелянкоўскую, якія ўвасабляюць Адама і Еву ў Раі. Амаль голая Святлана мільгне ў кліпе і яшчэ пару разоў. Будуць таксама вусаты палітык-папуліст у залатым вянку, надзіманыя лялькі для дарослых, «пацаны», творы Мікеланджэла, айфон, кілбаса... Пры канцы здарыцца апакаліпсіс.

Тэкст песні — пазнавальны набор папулісцкіх штампаў: «Путі народа — рекі, горы, леса, хлеб, молоко, колбаса».

**Ігар Няхведараў**



**Гісторыя**

## Шырма і Тарашкевіч: аднагодкі

20 студзеня мінулі адразу два юбілеі. 120 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіліся Браніслаў Тарашкевіч і Рыгор Шырма.

«Шырма — знакавая пастаць у мастацтве, — расказвае гісторык і літаратуразнаўца Арсень Ліс. — Ён кіраваў адразу двума харамі, падняў пласт беларускай народнай песні і паказаў яе ва ўсёй красе.

Таксама Шырма быў сакратаром Галоўнай управы Таварыства беларускай школы, якая супрацьстаяла паланізацыі Заходняй Беларусі. Быў выдатным публіцыстам: калі забаранілі зборнік вершаў Максіма Танка, дык выявілася, што забарона тычылася не столькі вершаў, колькі прамовы, напісанай Шырмам, — настолькі яна была яскравай і актуальнай для беларускага грамадства.

У Савецкім Саюзе былі тры вялікія харавыя дырыжоры, якія значна ўзнялі культуру, — Аляксандр Свешнікаў у Маскве, Густаў Эрнэсакс у Эстоніі і Рыгор Шырма ў Беларусі».

На пачатку XX ст., кажа Арсень Ліс, культура народнай песні была адным са складнікаў нацыянальнага абуджэння і кансалідацыі беларусаў. Таму такое важнае значэнне ёй надавалі інтэлектуалы.





З Браніславам Тарашкевічам, стваральнікам першай «Беларускай граматыкі для школ» і лідарам Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, Шырму яднаў не толькі дзень нараджэння, кажа А.Ліс. «Шырма ўваходзіў у Грамаду Тарашкевіча, яны разам сустракалі новы 1927 год у Таварыстве беларускай школы.. Тарашкевіч тады сказаў: «Наступны год будзе для нас вельмі цяжкім». Быць кіраўніком партыі, якая налічвае 100 тысяч чалавек, — цяжка, асабліва калі ўлічыць, што ў тагачаснай Еўропе такіх буйных партый амаль не было. У выніку лёс Тарашкевіча склаўся трагічней, чым у Шырмы, — ён не перажыў тэрор 30-х гадоў. Але ж і Шырму арыштоўвалі два разы: першы раз ён апынуўся на Лукішках, у другі раз на Лубянцы, адкуль яго праз Панамарэнку выцягваў Якуб Колас».

Трагізм XX стагоддзя: беларускі музыказнаўца яшчэ мог выжыць, а беларускі палітык — не.

**ЮУ**

**In memoriam**

## «Ён быў сапраўднай зоркай»

22 студзеня пайшоў з жыцця мастак **Яўген Шатохін**.

Яўген Шатохін стварыў некалькі серый карцін, прысвечаных славутым людзям Беларусі, ён быў ганаровым грамадзянінам французскага горада Альберт, сябрам мастацкай суполкі «Пагоня». Яго выставы праходзілі ў Расіі, Польшчы, ЗША і Францыі. Шатохіну было 65 гадоў.

«Калі ён толькі прыйшоў да нас, у «Пагоню», — успамінае Алесь Марачкін, — ён ужо меў вельмі высокі ўзровень. Як ён валодаў алоўкам! У яго была серыя «Землякі Васіля Быкава» з выдатным партрэтам Барадуліна, на якім Яўген пакінуў месца для таго, каб Барадулін упісаў туды верш.

У Пінску, дзе Яўген жыў, вакол яго стварылася цэлая школа. І ўсе мастакі, якія вучыліся ў яго, пайшлі ўрэшце па яго ных слядах. Яўгена гэта засмучала, ён казаў: «Я вучыў іх шукаць свой шлях, а не маляваць так, як я». На Піншчыне ён быў сапраўднай зоркай.

Ён нарадзіўся на Палессі, але пасля доўга жыў у Расіі, а вярнуўшыся, вельмі вялікую ўвагу надаваў нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Шатохін поўнасцю акунуўся ў хвалю Новага Адраджэння, трымаўся ідэалаў БНР.

Няўтульна побач з Шатохіным адчувалі сябе чыноўнікі. На адзін з пленэраў мусіла прыехаць раённае начальства, і, каб не дражніць яго, Шатохіна папрасілі зняць з намёта бел-чырвона-белы сцяг, які мастак заўжды ўздымаў. Яўген сцяг перавесіў на сваю машыну. І калі прыехала начальства, ён пачаў кружляць на машыне са сцягам між намётамі, кажучы: «Машына — мая ўласная тэрыторыя, і з ёй я магу рабіць тое, што хачу».

**Юрась Ускоў**




На гэтай яхце Яўген Шатохін праплыў ад Салаўкоў да Пінска.

# Архітэктура на подыуме моды

**Два праекты аднаўлення мінскага Замчышча параўноўвае архітэктар Ігар Байцоў.**

У пачатку лістапада прайшоў IX Нацыянальны фестываль архітэктуры «Мінск-2011». Галоўнай яго часткай была вялікая выстава праектаў з Беларусі і яшчэ з 22 краін Еўропы і Азіі.

На такіх імпрэзах іх удзельнікі — архітэктары, праектныя фірмы і творчыя саюзы — дэманструюць толькі тое, што хочуць паказаць. Таму многае з таго, што неўзабаве памяняе аблічча беларускіх гарадоў, на выставу не трапіла. Напрыклад, аўтары не паказалі, што з'явіцца ў цэнтры Мінска паміж Дзяржцыркам і паркам імя Горкага на месцы разбуранага ў 2011 гістарычнага будынка 1-й мінскай электрастанцыі. Напэўна, ведаючы, што ганарыцца гэтым праектам не выпадае.

Фармат фестывалю, на жаль, спрые паказу, успрыманню і ацэнцы архітэктурных аб'ектаў асобна ад атачэння, у якім ім прызначана існаваць, — як тых твораў куцюр'е падчас дэфіле на паказе мод. Але будынак — не сукенка, яго ў шафу не схаваеш.

Нават добрая архітэктура, калі яна не на сваім месцы па формах і памерах, можа разбурыць гармонію асяроддзя, а зусім сціплая пабудова ўдалага выгляду дапаможа гармонію стварыць, завершыць ансамбль. Таму на выставе, напрыклад, можна было ўбачыць аб'екты экалагічнай тэматыкі, спраектаваныя ў кідкіх формах, агрэсіўных да прыроднага атачэння, што не адпавядае сутнасці экалагічнага руху, а таксама будынкі ў манументальных «гарадскіх» формах, прызначаныя ўпрыгожыць Белавежскую пушчу.



Праект аднаўлення Замчышча, распрацаваны маладымі архітэктарамі, вылучаецца павагай да мінскай даўніны.

На характар таго, што архітэктары паказалі на выставе, паўплывалі густы заказчыкаў з розных краін — людзей з вялікімі грашыма і праўладных «эліт», а таксама розныя мясцовыя культурныя і прыродныя асаблівасці. Далёка не ўсё з таго, што было на выставе, прыдатнае для пераймання ў Беларусі і асабліва ў цэнтрах беларускіх гарадоў.

У сучасных умовах глабалізацыі, а па сутнасці ўсярэднення, вырасла вялікая пагроза страты рэгіянальных і нацыянальных адметнасцяў асяроддзя. Гэта цалкам датычыць нашай Беларусі, дзе захавалася так мала сапраўднай гістарычнай забудовы, а «памяркоўныя» прыродныя ўмовы не ў стане прадыктаваць яркіх асаблівасцяў падчас праектавання паселішчаў. Таму ў нас, калі мы хочам захаваць і павялічыць пазнавальнасць і прывабнасць сваёй краіны, неабходна пяшчотна ставіцца да ўсяго каштоўнага і своеасаблівага ў забудове, а не ганяцца за ўчарашняй сусветнай модай.

Тэме Мінскага замчышча на выставе былі прысвечаны працы двух творчых калектываў, якія, на жаль, былі размешчаны далёка адна ад адной, што замінала іх параўнанню. Першая з іх, распрацаваная Архітэктурнай секцыяй Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў у 2011. Вылучаецца праца павагай да мінскай даўніны і тонкім адчуваннем яе стылёвага характару.

**Будынак — не сукенка, яго ў шафу не схаваеш »**

Аўтары прапануюць аднавіць рэшткі замчышча і вялікую частку навакольнай забудовы з сістэмай вуліц — так, як было ў дарэвалюцыйныя часы. На жаль, прапанова не дае адказу на тое, як гэтая адноўленая частка старога Мінска будзе спалучацца з прылеглай найноўшай забудовай. Рэалізацыя гэтай прапановы ў поўным аб'ёме патрабуе зносу многіх будынкаў і створыць вялікія праблемы з рухам транспарту і таму выглядае ўтапічнай.

Другая праца, прысвечаная замчышчу, распрацаваная ў «Мінскпраекце» ў 2010. Відаць, што яе ідэяй было атрыманне з гэтай тэрыторыі максімальнага камерцыйнага прыбытку. Тут і замчышча, і яго атачэнне, загрувашчаныя мешанінай псеўдагістарычных збудаванняў рознага прызначэння. Тут процьма гістарычнай няпраўды! Гэты варыянт не адбыўся як твор архітэктуры і як зразумелы, прывабны вобраз. Калі ён будзе рэалізаваны, вялікі патэнцыял архітэктурна-ландшафтнай выразнасці даліны замчышча будзе прынесены ў ахвяру недальнабачнаму бізнэсу.

Па сваім патэнцыяле Мінскае замчышча — знакавы аб'ект-сімвал, таму яго трэба зрабіць такім, каб сваёй архітэктурнай дасканаласцю і мастацкай выразнасцю ён рабіў уражанне на пакаленні беларусаў і замежных гасцей. Для рэваларызацыі Мінскага замчышча патрабуецца рамантычнае стаўленне, а не бяскрылы практыцызм бізнэс-праекта. Можа, сучасныя абставіны ў эканоміцы паспрыяюць таму, каб не нарабіць паспешлівых памылак? Каб знайсці найлепшае, вартае гэтага аб'екта рашэнне, трэба працягнуць праектаванне на конкурснай аснове.

Выстава была вялікая па аб'ёме і разнастайная па змесце, што не дало магчымасці размясціць матэрыялы больш выгодна для ўспрымання ў абмежаванай прасторы. Можа, у далейшым мэтазгодна прысвячаць кожны з фестываляў адной з галоўных архітэктурных тэм? Напрыклад, наступнай магла б быць тэма «Гістарычнае асяроддзе і бізнэс».

# Беларуская глыбіня. **Вялікае княства бурштынавае**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Вось, Я кладу ў Сіёне*
*Камень кутні выбраны,*
*каштоўны...*
*I Пятра 2:6*

У тых краях, дзе я адбываю «хімію», упершыню давялося бываць першакурснікам геалогіі БДУ ўлетку 1995 — ужо пасля «рэферэндуму» аб адмене бел-чырвона-белага сцяга, але яшчэ да «Маладога Фронту». Кіраўнік нашай групы, дацэнт Міхась Нагорны (з чыёй лёгкай рукі беларускія геолагі пачалі вучыцца па-беларуску) прывёз нас на практыку ў крэйдавы кар'ер каля Сяльца — каб паказаць нам, недабітым рамантыкам эпохі Адраджэння, цуд у глыбіні такой звычайнай (нічога цікавага!) беларускай зямлі.

Уявіце сабе вялізную варонку, у якой мог бы змясціцца дзевяціпавярховы дом. Дно, выгрызенае экскаватарамі, белае-белае, чыстая крэйда. Вышэй, у вапняковай тоўшчы, рэшткі марскіх зорак і празрыстыя «чортавы пальцы» белемнітаў. Вышэй — металёвыя ядры марказітавых канкрэцыяў, памерам з яблык (разбіваеш — і знутры пераліваецца застылы прамяністы выбух металёвых іголак). Потым — рэзкая мяжа і чорны пласт (розум ледзь дае веры гэткай гіганцкай шахматнай гульні ў цябе пад нагамі!): вугаль. Сыпкія камякі слаістага бляску. Следам — праслоі крэмняў з гладкімі, бы карамелькі, рознакаляровымі халцэдонамі — быццам разарваныя каралі, сыплюцца, ценькаюць па стромкім схіле... І пясочак кварцавы, крышталёвы... І лёгкі налёт перагною... І лісце травы... І неба.

Але спадар Міхась, пакалупаўшыся ў вуголлі, падкінуў на далоні нейкі мурзаты каменьчык. О, бурштын!

Бурштын?!

Трэба было бачыць тую залатую ліхаманку, што ахапіла тузін хлопцаў і дзвюх дзяўчат. Пакідаўшы заданні, планшэты і рыдлёўкі, перапэцканыя чорным пылам, мы кінуліся разграбаць і перабіраць той вугаль голымі рукамі — каб праз паўгадзіны (шчаслівыя афрабеларусы!) паказваць адзін аднаму поўныя жмені сапраўднага тутэйшага бурштыну.

«Бурштын Беларусі» — так называўся і мой універсітэцкі дыплом, які праз 5 гадоў, мяты і перакрэслены, паляцеў мне ў твар цераз увесь кабінет дэкана геафака.

«Што гэта за беларуская мова? — крычаў дэкан Іван Іванавіч. — Што за мяккія знакі, што за «геа-лёгія»!.. Можаце лічыць сябе адлічаным!»

Але пасля прэс-каферэнцыі мяне раптам выклікалі ў дэканат: «Хутчэй прыязджайце, абараняйце! Камісія ў зборы».

Дзяржаўная камісія на чале з віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Радзімам Гарэцкім паставіла за перакрэслены чырвоным маркерам «Бурштын Беларусі» выдатна.

Ужо потым я даведаўся, што «прыняць на тарашкевіцы» распарадзіўся рэктар БДУ Аляксандр Казулін.

На найвялікшае ў Беларусі радовішча бурштыну ў Гатча-Осаве, за 40 км ад Купліна — мяне і накіравалі на першай працы ў «БелГЕА» ў 2000-м. І калі б не супрацоўнікі ў цывільным, што наведваліся да дырэктара з настойлівай прапановай пазбавіцца ад падазронага маладога спецыяліста, — паехаў бы мясіць гумовымі ботамі тарфяное балота яшчэ тады.

Нараджэнне бурштыну — гісторыя, вартая біблійнага драматызму. Вялікія хвоі (від ужо вымер), што раслі паміж Чорным морам і Балтыкай па берагах пратокаў ды выспаў ад сённяшняй Прусіі да Крыма, у адказ на сернае заражэнне па разломах зямной кары пачалі выдзяляць смалу. Бліжэй да зямлі, ля камля, перапоўненыя серай, набрынявалі вялікія непразрыстыя камякі, а на вецці, ачышчаныя слязьмі, павісалі празрыстыя кроплі.

Дрэвы падалі, перагнівалі, і бурштын на доўгія тысячагоддзі захоўваўся ў тарфяніках ды вуглях. Вось так са спрадвечных часоў у гэтым Міжмор'і, паміж скурчанымі звілінамі Еўропы і непамыснымі прасторамі Азіі, ляжыць найвялікшае ў свеце радовішча мурашоў і кузурак, замураваных у застылым святле. Пахаваная Атлантыда. Падземныя россыпы, руіны залатога веку, абшар пахаванай цывілізацыі ВКЛ. Каралявец. Паланга. Віленшчына. Міншчына. Галіччына. Беларасцейшчына... Вялікае княства Буршт ынавае.

Мінскія старажылы памятаюць: пасля вайны на Чэрвеньскім кірмашы сярод брыкетаў торфу можна было набраць цэлае вядро бурштыну. Толькі каму ён тады быў патрэбны?..

Калі добра прыглядзецца да тае зямлі, якую мы, няўважлівыя і няўдзячныя, топчам нагамі, у Беларусі можна знайсці і крывавыя згусткі гранатаў, і бліскучыя зубцы горнага крышталю, і яшму (біблейскі яспіс, з якога, паводле Апакаліпсісу, збудаваныя муры Нябеснага Ерусаліма), і іскрыстыя, са сцюдзёнымі сполахамі, у кварцытавай масе, авантурын, і дымчаты кварц, і самароднае золата, і нават алмазы. Бел-чырвона-белы сільвініт, мядовы сердалік ці сонечны бурштын могуць стаць беларускім нацыянальным каменем, падобна бразільскім ізумрудам, індыйскім перлам або грэцкаму мармуру.

Кожнаму народу творца даў свае скарбы, свае схаваныя знакі, свае запаветы ў камені. Мы шукаем кропак апірышча і не ведаем, што па ўсім тутэйшым прасторы, пад нашымі смутнымі краявідамі, у глыбокіх пластах балотаў, між хмараў гнюсу і крывасмокаў, у намножанай за стагоддзі твані тояцца скамянелыя сонечныя слёзы — Вялікае Княства Святла і Прыгажосці, якое калісьці падараваў беларусам Бог.

*Куплін*

**Падземныя россыпы, руіны залатога веку, абшар пахаванай цывілізацыі ВКЛ »**

# Гісторыя Беларусі. Частка XXIII

# Брачыслаў, стваральнік дзяржавы

**Праўду пра яго** дапамагаюць адкрыць скандынаўскія сагі. Піша Алег Дзярновіч.

Адасабленне Полаччыны пачалося ў 989 годзе, калі старэйшы сын Уладзіміра і Рагнеды Ізяслаў атрымаў у княжанне дзедаву вотчыну — Полацк. На поўначы нашага краю ўзнікала дзяржава, якая зможа сімвалізаваць традыцыю суверэннасці.

Летапісы пішуць, што Ізяслаў быў набожным і кніжным князем, і маўчаць пра яго палітычную дзейнасць. Відаць, пры Ізяславу ішла хрысціянізацыя Полаччыны — змагацца за незалежнасць пры жыцці Уладзіміра Кіеўскага было немагчыма. Памёр Ізяслаў у 1001 г., пакінуўшы нашчадкамі сыноў Усяслава і Брачыслава. Усяслаў Ізяславіч таксама памёр літаральна праз два гады, і пра абставіны яго княжання мы нічога не ведаем. Так , Брачыслаў Ізяславіч робіцца адзіным спадкаемцам.

### Полацк ідзе ў наступ

Пасля смерці кіеўскага князя Уладзіміра ў 1015-м стабільнасць у яго дзяржаве пахіснулася. Спрэчка за яго «стол» забрала жыцці шасці з дзевяці сыноў. Але ніхто з іх не прэтэндаваў на Полацк. Разлады стварылі спрыяльныя ўмовы для Брачыслава ў ключавым пытанні кантролю над дзвінскім адгалінаваннем шляху «з варагаў у грэкі».

У 1021 г. Брачыслаў здзейсніў імклівую выправу на Ноўгарад. Горад быў узяты і разрабаваны. Але на зваротным шляху, ля ракі Судаміры (Судомы) на Пскоўшчыне, Брачыслава спаткалі войскі кіеўскага князя Яраслава. Палачане былі разбітыя, наўгародскі палон адпушчаны дадому, а сам Брачыслаў адступіў у Полацк.

А далей адбываецца незразумелае. Пасля перамоваў Брачыслава і Яраслава апошні аддае свайму пляменніку гарады, якія кантралявалі волак паміж Дзвіной і Дняпром — Віцебск і Усвяты.

Нашы сціплыя веды пра той час могуць дапоўніць звесткі з скандынаўскай «Эймундавай сагі». Паводле яе, пасля перамогі над палітычнымі праціўнікамі Яраслаў перастаў плаціць грошы варажскім наймітам. І яе правадыр Эймунд сышоў з дружынай у Полацк да Брачыслава, званага ў скандынаўскай крыніцы «Варцілавам».

Калі Эймунд прапанаваў полацкаму князю свае паслугі, той адказаў: «Дай мне час параіцца са сваімі мужамі, бо грошы яны даюць, хоць плачу іх я». Гэтая фраза сведчыць пра арганізацыю палітычнага ладу полацкай зямлі і пацвярджае, што полацкія князі мусілі дзяліць уладу з нейкім калектыўным органам кіравання. У сазе ён названы, паводле скандынаўскай традыцыі, тынгам — народным сходам. Ва ўмовах Полацкай зямлі гэта магло быць веча ці рада пры князі.






Шкляныя візантыйскія пацеркі X—XI стст., знойдзеныя на Менскім гарадзішчы.

### Ці княжыў Брачыслаў у Кіеве?

Далей сага апавядае, што падчас канфлікту паміж Брачыславам і Яраславам Эймунд спрыяў заключэнню мірнай дамовы паміж князямі. У яе выніку «Ярыцлейв» застаецца ў Ноўгарадзе, Брачыслаў атрымлівае Кіеў, а сам Эймунд — Полацк.

Гэты сюжэт застаецца загадкай у гісторыі Русі XI ст. Славянскія летапісы нічога не паведамляюць пра княжанне Брачыслава ў Кіеве. Паводле летапісаў, Яраслаў у 1024 г. уцёк у Ноўгарад, дзе знаходзіўся да канчатковага замірэння са сваім братам і супернікам, тмутараканскім князем Мсціславам у 1026 г. А Кіевам кіравалі нейкія «мужы Яраслава». У летапісе прыгадваецца Брачыслаўаў двор у Кіеве, які мог быць толькі кіеўскай рэзідэнцыяй Брачыслава. Можна меркаваць, што тры гады, ад 1024 да 1026, Кіевам кіраваў пляменнік і хаўруснік Яраслава Брачыслаў.



Бітва на рацэ Судоме ў 1021 г., якая стала пачаткам узаемавыгаднай супрацы Брачыслава Полацкага і Яраслава Мудрага. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу (XV ст.).

### З Брачыславам разлічыліся Менскам

Якая была выгада Брачыславу ад гэтай складанай камбінацыі? На пытанне дапамагае адказаць супастаўленне летапісных звестак з археалагічнымі дадзенымі.

На поўдзень ад Полацкага княства знаходзілася густа заселеная Менская зямля. У культурным слоі Менскага гарадзішча знойдзена шмат клеймаў у выглядзе трызубца Уладзіміра — Менск першапачаткова належаў кіеўскім князям. А паводле летапісных звестак 1067 г., Менск быў ужо полацкім горадам і ўпарта супраціўляўся войскам Кіева. Падобны патрыятызм мог узнікнуць, як мінімум, праз адно-два пакаленні жыцця ў Полацкай дзяржаве.

Магчыма, Брачыслаў, атрымаўшы ў 1021 г. такія важныя цэнтры, як Віцебск і Усвяты, у 1024 г. дадаткова атрымаў і Менск ад Яраслава. Апошняму ж надзвычай былі патрэбны саюзнікі.

Хоць ёсць і версія, што Менск мог трапіць пад уладу Брачыслава ў 1038—1044 гг., калі Яраслаў ажыццявіў некалькі выпраў на Літву і яцвягаў. Мяркуецца, што падобная экспансія Кіева ў Панямонні супярэчыла інтарэсам Полацка, вось таму Брачыслаў і атрымаў адкупное —Менск.

### Браслаў: загадка назвы

Брачыслаў павялічваў сваю дзяржаву ў паўночна-заходнім кірунку, прасоўваючыся па Дзвіне ў латгальскія тэрыторыі. Яму прыпісваюць заснаванне парубежнага замка Браслава, названага ў яго гонар. Але лінгвісты тлумачаць тапонім праз балцкую аснову «брасла», што азначае «брод» — паселішча стаіць ля пераходу праз азёрную затоку.

У любым выпадку, за Брачыславам у Браславе з'явіліся ўмацаванні. Менавіта Брачыслаў збудаваў і тыя асновы, на якіх пазней паўстаў вобраз Полацкага княства. Дзякуючы яму перад Полацкім княствам у часы яго сына Усяслава адкрыліся новыя перспектывы.

Ці здолела яно скарыстацца шанцам? Пра гэта — у наступных выпусках «Гісторыі Беларусі».

## Кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

### «Лісты да Волі»

Новая кніга Някляева «Лісты да Волі» мае фармат нятоўстага агульнага сшытка ў клетку. Клеткі сшытка карэлююцца з клеткай, турмой. На фарзацы — сімвалічная пазнака, што кніга «здадзеная ў друк 19 снежня 2010». Але яна напісаная якраз пасля гэтай даты.

У невялікім уступе паэт распавядае, што адбывалася з ім у першыя дні пасля выкрадання з Бальніцы хуткай дапамогі — калі на волі нават былі сумневы, ці жывы ён.

Някляеў піша пра прывыканне да турмы і абуджэнне надзеі — калі ва ўмовах поўнай ізаляцыі пабачыў на абрыўку газеты словы Еўтушэнкі, адрасаваныя яму: «Валодзя, трымайся!» Паэт перажыў катарсіс, які стаў штуршком для напісання «Лістоў да Волі».

Праз краты, праз калючыя драты
Апоўначы ўсміхнулася мне ты,
І я заснуў —
і праз драты,
праз краты
З тваёй усмешкай
паляцеў
дахаты.

Воля — гэта свабода, і Воля — гэта жонка Някляева, Вольга, якой прысвечаны цыкл з 30 вершаў — 29 напісаныя ва ўнутранай турме КДБ і фінальны — пад хатнім арыштам.

Апроч вершаў, у кнізе змешчаная паэма «Турма». У паэме мы бачым эвалюцыю, умацаванне духу паэта ў вязніцы. Ад суму па каханай да процістаяння Турме — псіхалогіі рабства, унутранай несвабоды. Як лагічны працяг паэмы чытаецца фінальная частка кнігі — прамова Някляева ў судзе.

Кніжка мае выдатны макет і паліграфію. На жаль, яна наўрад ці трапіць у дзяржаўныя кнігарні — шукаць яе трэба будзе ў незалежных распаўсюднікаў.




**Някляеў У. Лісты да Волі. – Вільня: «Беларускі інфармацыйны цэнтр», 2011**

### Калі Літва была каралеўствам

Выйшла новая кніга Алега Дзярновіча «Фрэскі гісторыі».

Кніга складаецца менавіта з «фрэсак» — кожная з іх асобна вымаляваная, яны маюць розны маштаб. У адных артыкулах гісторык аналізуе светапоглядныя праблемы часоў ВКЛ (як стаўленне да традыцый, функцыянаванне гістарычнай памяці), у другіх закранае палітычныя праблемы і спрэчныя пытанні мінулага, у трэціх — адшуквае незвычайныя дэталі — часам мілыя, часам вусцішныя — жыцця нашых продкаў у часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

Напрыклад, піша, чым хварэлі тады людзі, як бавілі час, як змяняўся клімат у Беларусі цягам гісторыі. Даследуе і выпадкі канібалізму ў ВКЛ.

Аўтар разбіраецца, калі і як узнікалі тыя ці іншыя назвы і паняткі, якія мы прывыклі лічыць адвечнымі, — Усходняя Еўропа, Вялікае Княства Літоўскае, Грунвальд…

Чытаючы «Фрэскі», адчуваеш сябе рэстаўратарам, які, здымаючы слаі шэрай тынкоўкі, адкрывае незвычайныя вобразы мінулага.

Некаторыя тэксты кнігі раней друкаваліся ў «НН».

**ЯК**




**Дзярновіч А. Фрэскі гісторыі: артыкулы і эсэ па гісторыі і цывілізацыі Беларусі і Цэнтральна-Усходняй Еўропы. — Мінск: РІВШ, 2011**

# BosaeSonca і J:Морс + Паліна Рэспубліка




Гурт BosaeSonca нагадаў пра сябе праз паўзу ў чатыры гады. Іх новая кампазіцыя «Зіма» апынулася ў лідарах «Тузіна хітоў». Гурт J:Морс для выступу на «Тузін. Unplugged» рыхтуе адмысловую акустычную праграму. Да ўсяго, спецыяльным госцем вечарыны будзе Паліна Рэспубліка (на фота), прызнаная парталам Tuzin.FM галоўным адкрыццём у беларускай музыцы ў 2011 годзе. 17-гадовая спявачка сыграе некалькі песень, якія палюбіліся ўжо яе прыхільнікам.

Канцэрт пачнецца ў 19:00 30 студзеня (панядзелак) у мінскім клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16). Кошт квітка — 100 000 руб. Набыць квіткі можна ў клубе загадзя з 18:00 да 22:00 штодня, акрамя суботы і нядзелі. Інфалінія: (029) 638-44-44, (033) 638-44-44, skype, google: Diskoteq, ICQ: 531-07-353.

## КАНЦЭРТЫ

### Тыдзень дударскай музыкі.

**26 студзеня ў Малой зале к/з «Мінск» а 19-й** — канцэрт «Легенды Вялікага Княства — старажытная зямля». Удзельнічаюць Testamentum Terrae», Brevis, Cornucopia, «Irdorath folk band», сярэднявечны Вулічны Тэатр «Шальмоўскі Тэатр Ды Грыза», гурт гістарычнага танца «Фламея», Бурносенка Аляксей, школа гістарычнага танца «Залаты двор». У праграме таксама рыцарскія баі ад «Мінскай Уніі «Меч і Воран». 27 студзеня ў Брэсце ў ГКЦ — свята дуды з гуртамі «Стары Ольса» і Testamentum Terrae. 28 студзеня ў Гомелі ў ГЦК — свята дуды з гуртамі «Стары Ольса» і Testamentum Terrae.

### Шалкевіч

**10 лютага а 19-й у ДК БелОГ імя Н.Шарко (Уральская, 3, ст. м. «Трактарны завод»)** — канцэрт Віктара Шалкевіча.

### Тройца

**25 студзеня а 19-й у Белдзяржфілармоніі** — канцэрт этна-трыа «Тройца».

### Lady Baltimor Jazz

**26 студзеня а 19-й у ДК Прафсаюзаў** — канцэрт соўл-спявачкі Ванды Марыі Гузман.

## ВЫСТАВЫ

### У суаўтарстве з прыродай

**Да 5 лютага ў філіяле гістарычнага музея «Дом-музей I з'езда РСДРП»** працуе выстава прац Кацярыны Новікавай «У суаўтарстве з прыродай», дзе можна ўбачыць карціны, упрыгожанні, скульптуры, кампазіцыі з дрэва, кары, саломкі і іншых прыродных матэрыялаў.

### II Фэст беларускага духоўнага мастацтва

**У Палацы мастацтваў (Казлова, 3) да 29 студзеня** працуе выстава «II Фэст беларускага духоўнага мастацтва». Фэст беларускага духоўнага мастацтва трэба разглядаць як свята і пацверджанне нязменлівасці хрысціянскіх каштоўнасцяў, здабытых вялікім коштам. Гэта свята аднадумцаў, людзей роднасных па духу і светапогляду, якія хочуць падзяліцца радасцю сваіх мастацкіх адкрыццяў.

### Артуру Бартэльсу прысвячаецца

**У Палацы мастацтваў да 29 студзеня** працуе мастацкая выстава паводле пленэра, прысвечанага Артуру Бартэльсу, беларускаму карыкатурысту, ілюстратару, пісьменніку і публіцысту XIX стагоддзя.

### Метамарфозы

**Да 12 лютага ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава піктаральнай фатаграфіі «Метамарфозы». Піктаральная фатаграфія — адзін з напрамкаў мастацкай фатаграфіі. Пікталарысты праз гульню светлаценю і складаным метадам друку ператвараюць фотакартку калі не ў карціну, то ў малюнак альбо гравюру.

Выстава прысвечаная 130-годдзю з дня народзінаў беларускага фотамайстра Льва Дашкевіча — папярэдніка сучаснай беларускай піктаральнай фатаграфіі.

### Дух гісторыі

**Да 4 лютага ў Музеі гісторыі беларускага кіно (Свярдлова, 4)** працуе дабрачынная выстава з мэтай збору сродкаў для рэстаўрацыі гісторыка-культурнай каштоўнасці «Комплекс былога палаца Святаполк-Чацвярцінскіх у г.п. Жалудок».

### Інтэр'ер фотасалона

**У Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту** да 29 студзеня ў помніку народнай архітэктуры пач. XX ст. «Жылы дом з вул.Вызваленне,4,» які перавезены з Ракаўскага прадмесця г.Мінска, працуе выстава «Інтэр'ер фотасалона кан. XIX — пач. XX стст.: «Светапісны кабінет».

### 30 гадоў тэатру

**Да 27 студзеня ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (Старавіленская, 14)** працуе выстава, прысвечаная 30-годдзю творчай дзейнасці тэатра-студыі кінаакторa. На выставе прадстаўленыя тэатральныя касцюмы, дэкарацыі, фатаграфіі сцэн са спектакляў, рэчы з асабістай калекцыі мастачкі А.Грыбавай.



Так выглядаў гадзіннік Караткевіча

### Гадзіннікі Караткевіча і Коласа

Да 1 сакавіка ў музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10) працуе выстава «Новы год: час мінскі». На выставе прадстаўленыя больш за 300 прадметаў: гадзіннікі і гадзіннікавыя механізмы самых разнастайных відаў і гістарычных часоў, творы жывапісу, графікі, фотаздымкі, прадметы побыту і інтр'еру.

## ТЭАТРЫ

### 25 студзеня

**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Купалаўскі** — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»

### 26 студзеня

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Купалаўскі** — «Вяселле»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»

### 27 студзеня

**Купалаўскі** — «Вяселле»
**Беларускай драматургіі** — «Карусель»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»
**Лялек** — «Гісторыя аднаго горада»
**Оперы і балета** — «Алека. Балеро»

### 28 студзеня

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Купалаўскі** — «Не мой»
**Оперы і балета** — «Бальмаскарад»

### 29 студзеня

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Оперы і балета** — «Трыстан і Ізольда. Палавецкія пляскі»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 30 студзеня

**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»

### 31 студзеня

**Беларускай драматургіі** — «Сублімацыя любові»
**Оперы і балета** — «Аіда»

### 1 лютага

**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Беларускай драматургіі** — «Карусель»

### 2 лютага

**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі рая»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»

### 3 лютага

**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі рая»
**Купалаўскі** — «Не мой»

### 4 лютага

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Купалаўскі** — «Вяселле»

### 5 лютага

**Лялек** — «Асцярожна, свіння»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

## КІНО

### Светлакоў іграе маньяка

**Камень**
Расія, 2012.
**Рэжысёр:** Вячаслаў Камінскі
**Ролі выконваюць:** Сяргей Светлакоў, Алеся Судзілоўская, Мікалай Казак.
**Жанр:** Драма

У бізнэсмэна Улада сярод белага дня выкрадаюць сямігадовага сына. Неўзабаве звоніць мабільны, і невядомы (Сяргей Светлакоў) паведамляе, што калі той не здзейсніць самагубства цягам сутак, хлопчык будзе забіты.

Рэжысёр факусуе ўвагу на вобразе выкрадальніка, матэрыяльна забяспечанага бландына Пятра Аляксеевіча па мянушцы Камень, якога малалецтва ў дзіцячым доме навучыла ніколі нікога не любіць. Энтані Хопкінсу, каб намякнуць гледачу, што з яго героем нешта не так, досыць паварушыць брывом. Светлакову для дасягнення аналагічнага эфекту даводзіцца за паўтары экранныя хвіліны пабіць прастытутку, нырнуць апрануты ў сажалку і гыркнуць перапалоханаму закладніку: «Не рабі бога ні з кога, акрамя сябе!»

Пётр Аляксеевіч -- гэта такі асатанелы Карлсан. Інфантыльны фантазёр з бясшумным джыпам замест прапелера, багатым запасам манетак у кішэні і гатоўнасцю «курашчаць» звычайную сям'ю за тое толькі, што ў ёй ёсць любоў, а яму, бабылю, і шкарпэткі памяняць няма каму.

Газета.ru



# Адчуць сябе ў скуры Супермарыё

«Схватка», «Кропка», «Мокрыя войны» — **гарадскія гульні** сталі экспартным бізнэсам.

Напэўна, многія б хацелі апынуцца на месцы Майкла Дугласа ў прыгодніцкім фільме «Гульня». Сёння гэта магчыма з дапамогай праекта «Энкаўнтар» — сеткі актыўных гарадскіх гульняў.

Каб паўдзельнічаць, вам патрэбны інтэрнэт, аўтамабіль і карта мясцовасці. Уявіце, што камп'ютарная гульня стала рэальнасцю. А замест Супермарыё па горадзе бегаеце... вы (толькі забіваць нікога не трэба).

### Шукаў дзяўчыну праз квест

«Схватка» — першая на постсавецкай прасторы гарадская пошукавая гульня. Стварыў яе мінчук Іван Маслюкоў у 2001. Менавіта з нашай сталіцы «Схватка» патрапіла ў Піцер і Маскву.

Цікава, што стваральнік гульняў пэўны час шукаў спадарожніцу

## Мінскае дваровае захапленне пакарыла 23 краіны Еўропы

жыцця... праз квест! Прэтэндэнткам прапаноўвалася адказаць на пытанні. І толькі самыя кемлівыя маглі патрапіць на новы ўзровень — спатканне.

Што такое схватка? Каманды-ўдзельніцы атрымліваюць заданні на сайце. У іх зашыфраваныя месцы ў горадзе ці наваколлі. Разгадаўшы месца і прыехаўшы туды, камандзе трэба знайсці «код». Ён можа быць напісаны дзе заўгодна: у падвале закінутага будынка, на дрэве, у рацэ — што ўзбрэндзіць у галаву арганізатарам. Здабыўшы код, трэба ўвесці яго на сайт і атрымаць новае заданне. Перамагае той, хто хутчэй пройдзе ўсе ўзроўні.

### Памыцца ў ваннай у грамадскім месцы

Існуе спрошчаны варыянт — «Кропка». У адрозненне ад «Схваткі», код на месцы здабыць нескладана. Ён знаходзіцца на бачным месцы і не хаваецца. Такім чынам, гульню можна прайсці, не выходзячы з аўто.

Для «Кэшынгу» вам спатрэбіцца GPS-навігатар і рыдлёўка. Атрымаўшы каардынаты мясцовасці, удзельнікі павінны адкапаць «тайнік» з кодам.

Творчыя асобы могуць паспрабаваць сябе ў «Фотапаляванні» ці «Відэапаляванні». Атрымаўшы заданне на сайце (а гэта можа быць слова, цытата, музычны ўрывак), удзельнікі прыдумляюць ідэю для фота ці відэа, якое павінна адлюстроўваць сутнасць задання. Перамагае той, хто атрымае найвышэйшыя балы за здымкі. Найбольш дзёрзкія фатографы выбіраюць «Фотаэкстрым». Тут патрабуецца зняць незвычайныя сітуацыі, якія часам выходзяць за межы прыстойнасці. Напрыклад, сфатаграфаваць, як дзяўчына мыецца ў ванне ў грамадскім месцы. Альбо міліцыя катае чалавека на крэсле.

Дарэчы, праблемаў з уладамі і міліцыяй ніколі не ўзнікала, кажуць арганізатары. Ды і самі міліцыянеры з ахвотай гуляюць. У мінулым годзе разам з ДАІ была праведзеная дабрачынная гульня ў «Зубраняці».



Заданне можа быць схаванае нават у снегавіку

### «Замачыць» ахвяру

«Мокрыя войны» — гэта «казакі-разбойнікі» для дарослых. Кожны ўдзельнік з'яўляецца ахвярай і паляўнічым адначасова. Калі ўдзельнік «замачыў» ахвяру, яна аддае свой жыццёвы код і выбывае з гульні. А паляўнічы ўводзіць код на сайце і атрымлівае звесткі пра наступную «ахвяру». Выйграе той, хто замочыць усіх.

Гульня праводзіцца пераважна летам. Але ёсць зімовы фармат — «Снегавыя войны».

У «Віктарыну» і «Мазгавы штурм» можна гуляць у інтэрнэце, не выходзячы з дома. Як вынікае з назвы, сутнасць гулькі — анлайн-адгадванне загадак. Фармат віктарыны падобны да папулярных інтэлектуальных тэлешоу а-ля «Хто хоча стаць мільянерам?» ці «Поле цудаў».

### Беларусы для Сарбоны

Сёння гульнямі «Энкаўнтара» захапляюцца каля 300 тысяч чалавек па ўсім свеце. У Беларусі зарэгістравана каля 20 тысяч удзельнікаў. Гульні праходзяць у 10 гарадах нашай краіны. Гэта крыху менш, чым у 2010: адбіўся крызіс і рост цэнаў на бензін.

Дарэчы, калі здарыўся крызіс, адміністратары «Энкаўнтара» прынялі рашэнне даць 50% зніжку на ўсе гульні ў Беларусі. Раней такую ж зніжку мелі гульцы з Кыргызстана.

Цана ўдзелу ў гульні на аднаго чалавека складае $3-5. Палова сумы ідзе на прызы і пачастункі на фінішы, палова — заробак аўтараў гульні. На буйных і міжнародных гульнях кошт павялічваецца. Але і маштабы іншыя: два дні гульні і дзясяткі складаных місій, раскіданых па вялікай тэрыторыі.

У параўнанні з традыцыйнымі захапленнямі моладзі, такое баўленне часу застаецца найбольш даступным. Са слоў арганізатараў, раней сярод удзельнікаў можна было сустрэць і бізнэсоўцаў, і выкладчыкаў. Зараз пераважаюць студэнты і сярэдні клас людзей да 30 гадоў.

У гульнях «Энкаўнтара» прымалі ўдзел вядомыя асобы — Руслана, «Акіян Эльзы», Яўген Грышкавец, Арцемій Лебедзеў ды іншыя. Сярод беларусаў — інтэлектуал Алесь Мухін і пісьменніца Вольга Грамыка. Стваральнікі ганарацца, што іх мінскае дваровае захапленне пакарыла 23 краіны Еўропы.



«Мокрыя войны» ў Мінску.

**Прыклады рэальных заданняў:**

«Як кажа гарадская легенда савецкіх часоў, калі вырашалася пытанне аб назве гэтага мінскага гатэля, адзін чыноўнік устаў, папраўляючы акуляры, кашлянуў, запаліў і, кінуўшы на стол пачак цыгарэт, сказаў: "А што тут думаць?! Вось і назва!"»

Адказ: гатэль «Арбіта». Далей каманды прыязджаюць у «Арбіту» і бяруць у адміністратара канверт з заданнем. У ім — задача на веданне Мінска:

(Колькасць станцый метро Мінска) + (Колькасць раёнаў) — (Колькасць анёлаў на гербе) / (Год заснавання Мінска) / (Колькасць плошчаў у Мінску) = Нумар пакоя

Ці яшчэ. Заданні былі запісаныя на дыску песень. У адной з іх спявалася пра «месца, дзе ў светлым будынку на праспекце ёсць зямны шар». Правільны адказ — будынак БНТУ, побач з якім стаіць глобус.

Кіраўнікі Сарбоны запрашалі іх ладзіць гульні для сваіх студэнтаў. А расійскі МТС пабудаваў на іх ідэях і з дапамогай беларускіх сцэнарыстаў і праграмістаў мэдыя-квест з 2,6 мільёнамі ўдзельнікаў.

**Аксана Рудовіч**

**Здароўе**

# Прадукты, якія зніжаюць рызыку захворвання на рак

Падказкі для **здаровага харчавання**.

На думку навукоўцаў, найбольш простым і танным спосабам памяншэння рызыкі захворвання на рак з'яўляецца здаровае харчаванне.

Вось некаторыя прадукты харчавання, рэгулярнае спажыванне якіх дапамагае знізіць небяспеку захворвання.

Штогод у свеце ад раку паміраюць мільёны людзей. Многія даследчыкі і спецыялісты-анколагі лічаць, што ў 60% выпадкаў гэтых смерцяў можна было б пазбегнуць, ведучы здаровы лад жыцця.

**Часнок** змяшчае шэраг злучэнняў, якія могуць дапамагчы абараніць ваш арганізм ад раку, асабліва ад такіх яго разнавіднасцяў, як рак скуры, тоўстай кішкі і лёгкіх.

**Зеляніна з цёмным лісцем** — багатая крыніца антыаксідантаў (каратыноідаў). Яны выдаляюць з вашага арганізма небяспечныя радыкалы, не дазваляючы тым спраўляць узнікненне раку.

**Вінаград (або чырвонае віно)** змяшчае хімічны рэсвератрол, вельмі моцны антыаксідант, здольны прадухіліць пашкоджанне клетак.

**Зялёная гарбата**: у яе склад уваходзяць флаваноіды, здольныя прадухіліць ці запаволіць развіццё некалькіх тыпаў раку, уключаючы захворванні тоўстай кішкі, печані, малочнай залозы і прастаты.

**Таматы** — крыніца злучэння пад назвай лікапін. Яно дапамагае прадухіліць рак прастаты, малочнай залозы, лёгкіх і страўніка.

**Чарніцы.** З усіх відаў ягад чарніцы змяшчаюць найбольшую колькасць карысных злучэнняў, якія прадухіляюць з'яўленне любых відаў раку.

**Ільняное насенне.** У яго склад уваходзяць лігнаны, здольныя аказваць на арганізм эфект антыаксідантаў і блакаваць або душыць ракавыя змены. Акрамя таго, яно таксама змяшчае тлустыя кіслоты «амега-3», якія могуць дапамагчы абараніць арганізм ад раку тоўстай кішкі. Можна дадаваць у пірагі, печыва, хлеб і г.д.

**Грыбы.** Асобныя віды грыбоў — крыніцы карысных рэчываў, якія дапамагаюць арганізму змагацца з ракам і ўмацаваць імунную сістэму.

**Крыжакветная гародніна**, такая як брокалі, а таксама звычайная, квяцістая і брусэльская капуста ўтрымліваюць моцныя антыаксіданты, якія могуць знізіць рызыку захворвання.

**Цэльнае зерне** ўтрымлівае розныя супрацьракавыя злучэнні, у тым ліку антыаксіданты, валокны і фітаэстрагены.

**Livejournal.ru**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Беларуская супольнасць у Гарадку, што на Падляшшы, адзначыла ў мясцовым Доме культуры Калядкі. Фальклорныя калектывы выступілі з праграммай калядных песень. Спецыяльным госцем беларусы Польшчы запрасілі Змітра Вайцюшкевіча.**




**22-гадовая дзяўчына знялася агаленай у мінскім метро. Незаўважна для міліцыі зрабіць гэта не ўдалося. На наступны дзень студэнтку аднаго з гуманітарных факультэтаў БДУ асудзілі да 70 тысяч штрафу за дробнае хуліганства.**




**Цэрквы і касцёлы, цытаты з Цоя і Шапенгаўэра. Гродзенская ДАІ выпусціла ўласны каляндар на 2012 год.**




**Сямён Буракевіч, малады дызайнер з Ізраіля, які цяпер жыве ў Празе, так натхніўся стасункамі са сваёй беларускай дзяўчынай, што падрыхтаваў для сяброў ды знаёмых паштоўкі Belarus is….**

## Анекдоты

* * *

Хлопчык прыйшоў на ранішнік у касцюме беларускага рубля. Два разы ўпаў, пакуль ішоў да Дзеда Мароза.

* * *

У 1930-я гады Дзед Мароз прынosіў спіс кепскіх дзетак проста таварышу Сталіну.

* * *

На краш-тэсце БелАЗа бетонная пліта спрабавала адпаўзці.

Краш-тэст «Лады»: аўтамабіль да пліты не даехаў.

* * *

Нацыянальная ідэя — сабраць больш збожжа і снегу. Нацыянальныя святы — Дажынкі і Сняжынкі.

* * *

Ідзеш увечары па цёмным парку, а насустрач пяцёра: «Аддавай тэлефон, планшэт, ноўтбук і гадзіннік — гэта парк высокіх тэхналогій!»

* * *

Чую штосьці ў шафе варушыцца, а там вопратка з моды выходзіць.

***

Чалавек заўсёды марыць пра цуды. Асабліва калі націскае ў банкамаце кнопку «Праверка балансу».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Чмялевічы**. Барысаўскі павет. Жыве тут нейкі лекар самавучка. Да яго бабы ўплыў ідуць. Ён усе хваробы лечыць адным лякарствам — «адчэпнай соллю». Гэтую соль ён заварачвае ў рознага колеру паперкі і выходзіць: што паперка, то іншае лякарства. А наш цёмны беларус і гэтаму рад. Во як ашукваюць нас розныя шаптуны і ведзьмакі, якія праз цемнату нашу набіваюць сабе кішэні.

**«НН». №3. 1912.**

**Алесь Бяляцкі:** Супрацьстаяць гэтай «хамскай уладзе» можна толькі праз уласную пазіцыю. Ніхто тут новых рэцэптаў не падкажа. Ужывайце беларускую мову, не саромцеся: размаўляйце, пішыце, прапагандуйце яе, глядзіце, каб вашы дзеці размаўлялі па-беларуску і хадзілі ў беларускія класы, мацуйце беларускамоўную прастору. Бо ў кожнага ёсць такія магчымасці.

**«НН». №3. 2002.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7800. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 24.01.2012.
Замова №357.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614